—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
8
ЛІСТАПАДА
1991 г.
№ 45 (3611)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





Стоенасць.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# Гімн Рэспублікі Беларусь

## Умовы і парадак правядзення конкурсу на стварэнне новага нацыянальнага гімна

1. У конкурсе могуць прымаць удзел члены творчых саюзаў рэспублікі, а таксама іншыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі.

2. Не абмяжоўваць умовамі конкурсу жанравыя і музычна-стылістычныя накірункі будучага гімна. Асноўным патрабаваннем да твора павінна застаецца яго высокая мастацкая якасць: новы гімн павінен з годнасцю прадстаўляць нашу новую незалежную рэспубліку, яе народ.

3. Правесці конкурс да 1 студзеня 1992 года ў два этапы.

Завяршыць 1 этап 1 снежня 1991 г. Да гэтага тэрміну ўдзельнікі конкурсу павінны прадставіць у Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь музыку (у выглядзе клавіра для хору з суправаджэннем) і тэкст (надрукаваны ў трох экземплярах), як створаныя сумесна кампазітарам і паэтам, так і паасобку. Кампазітары могуць карыстацца як тэкстамі сучасных аўтараў, так і літаратурнай спадчынай ранейшых часоў. Да прадстаўленых твораў, якія павінны мець дэвізы, дадаюцца канверты, у якіх знаходзяцца каардынаты творцаў: імя, прозвішча, адрас, месца працы.

Пасля адборачнага туру лепшыя літаратурныя і музычныя творы будуць набыты МК Рэспублікі Беларусь. На музычныя творы будзе зроблены дзяржзаказ з мэтай стварэння аркестравай партытуры для сімфанічнага і духавога аркестраў.

Другі тур завяршыць 1 студзеня 1992 г. Па выніках другога туру будуць выкананы творы выканаўчымі калектывамі рэспублікі перад журы, у якое ўвойдуць прадстаўнікі творчых саюзаў, Дзяржтэлерадыё, вучоныя, выканаўцы.

# ПАПЕРА—ГЭТА Ж ДЭФІЦЫТ!

Пра сшыткі я. Пра самыя звычайныя вучнёўскія і пра так званыя агульныя. Якіх цяпер вельмі не хапае і якія выпускаюцца сваімі ж беларускімі фабрыкамі — гомельскім «Палесдрукам» і добрушскім «Героем працы». А сшыткі, як вядома, не толькі лісткі паперы, а і вокладка. Вокладка ж — гэта ж яшчэ чатыры старонкі ў вучнёўскіх сшытках і дзве — у агульных.

Вось і ўзнікае думка пра рацыянальнае выкарыстанне плошчы вокладак. Думаюць пра гэта і вытворцы сшыткаў, спрабуюць рабіць добрую справу. Скажам, на вокладках агульных сшыткаў друкуюць розныя матэматычныя формулы для студэнтаў, на чацвёртай старонцы вокладкі вучнёўскіх сшыткаў змяшчаюць табліцу множання. Ці якія-небудзь заклікі. *Кшталтам: беражыце лес, ці: асцярожна абыходзьцеся з агнём.*

Не будзем аспрэчваць карысці гэтых публікацый. Але ж застаюцца нескарыстанымі ў вучнёўскіх сшытках яшчэ дзве ўнутраныя старонкі вокладак. Вось бы іх ашчадна і выкарыстаць. Як? А прымусіць гэтыя самыя старонкі працаваць на выкананне Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Чаму б не пачаць друкаваць на іх вершы нашых паэтаў пра хараство роднага краю? А хіба лішнім будзе расказ пра цікавыя помнікі даўніны на тэрыторыі нашай дзяржавы? Не перашкодзяць, думаецца, і публікацыі пра знакамітых людзей Беларусі.

«Гуляе» ж такая дарагая папера! Дык выкарыстаем яе з карысцю ў імя Адраджэння! Поле дзейнасці тут — бязмежнае! Можна друкаваць, скажам, руска-беларускі слоўнік, тлумачыць значэнне асобных слоў.

Чаму б не падумаць пра ўсё гэта Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны? Чаму б не звязацца ягонаму кіраўніцтву з кіраўніцтвам «Палесдрука» і фабрыкі «Герой працы»?

**А. М.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# СУСЕДСКІЯ ЗАХАДЫ?

Хачу пагаварыць з чытачамі «ЛіМа» пра адно вельмі датклівае пытанне. Маю на ўвазе незразумелыя, дзіўныя праявы — прэтэнзіі нашых суседзяў на Берасцейскае Палессе. Даводзілася чуць пра такія прэтэнзіі з боку палякаў і так званых «яцвягаў», даводзілася чуць і выказванні пра тое, што Палессе — гэта «исконно русские земли». Апошнім жа часам усчынаюць падобную гаворку і ўкраінскія суседзі.

Мне вядома толькі невялічкая частка таго, што пішуць на Украіне пра наша Палессе, але ж гэтага дастаткова, каб зрабіць пэўныя высновы пра інтарэсы Украіны і Украінскага Грамадска - культурнага аб'яднання на Берасцейшчыне. Неаднойчы пісалася аб «этнічных украінскіх землях на Берасцейшчыне» ў газеце «Край» — органе валынскай філіі Руху. Былі падобныя звесткі ў штотыднёвіку Івана-Франкоўскага таварыства ўкраінскай мовы «Новый час». Узнікла ўжо «ўкраінскае пытанне» і ў брэсцкай абласной газеце «Заря», і ў польскай украінскамоўнай газеце «Наше слово». Ды і за «яцвягамі» я бачу пакуль што больш паўкраінскія настроі, чым нейкія яцвяжскія. Створанае ў лютым 1990 г. у Брэсце ўкраінскае аб'яднанне на чале з «паном Козлівськім» паспела выдаць улётку ў г. Ківерцы (Валынь), дзе надрукаваны «Зварот да карэннага насельніцтва Берасцейшчыны» (на ўкраінскай мове). Прыводжу вытрымкі з улёткі ў перакладзе: «На працягу шасці стагоддзяў паны-чужынцы адгароджвалі нас ад Украіны, але мы з дзеда-прадзеда, як найдаражэйшую спадчыну, беражом родную старадаўнюю палескую мову, што ёсць дыялектам мовы ўкраінскае, цвёрда трымаемся карэнняў продкаў — супольнасці са шматмільённым украінскім этнасам... Заканадаўча ўстаноўлена, што ўсе мы маем права вольна выбіраць, да якой нацыі належыць, якую мову называць сваёю. То ж задумаемся, хто мы такія, да якога слова, да якой песні цягацее нашае сэрца, чые мы праўнукі!.. Згадайма, што доўгі час у нашых вёсках былі ўкраінскія бібліятэкі-чытальні, школы на роднай мове». Аўтары ўлёткі паведамляюць, што створаны ўжо суполкі і працуюць яны ў Маларыце, Кобрыне, Пінску, Драгічыне, Днепрабужску, Матыкалах, Брэсце. Напаследак яны адзначаюць, што «нацыянальная справядлівасць... не павінна абмінуць нашу (г. зн. берасцейскую. — **аўт.**) зямлю».

Неаднойчы з'яўлялася ўкраінская суполка ў цэнтры Брэста са сваім інфармацыйным стэндам, дзе звычайна памяшчаліся матэрыялы «Пана Козлівського» (сам ён нарадзіўся ў Брэсцкім раёне). Неаднойчы былі на гэтым стэндзе і карты часоў Галіцка-Валынскага княства, і карты рассялення плямёнаў. Аднойчы берасцейцы ўжо выказалі сваё стаўленне да ўсяго гэтага — прымусілі «пана Козлівського» і К° забраць свой стэнд і хуценька рэціравацца. Але ўсё ж якія аргументы ў «пана Козлівського»? Адзін з актывістаў таварыства Мікола Сцепановіч напісаў нават «манаграфію» «Аб этнічным складзе і нацыянальным пытанні насельніцтва Берасцейскай вобласці ў дэталёвым разглядзе» (на ўкраінскай мове). У яго працы і ў «працах» пана Казлоўскага сцвярджаецца, што на Берасцейшчыне жывуць два карэнныя народы — беларускі і ўкраінскі. Апошні жыве ў ПЧБО «піўдэнна Частына Брестскоі області»): Маларыцкі, Брэсцкі, Камянецкі, Жабінкоўскі, Кобрынскі, Бярозаўскі, Драгічынскі, Іванаўскі, Пінскі, Столінскі раёны, а таксама часткова Пружанскі, Івацэвіцкі, Ляхавіцкі, Ганцавіцкі, Лунінецкі раёны. Колькасць украінцаў, згодна Казлоўскаму, 1,05 млн. чалавек.

Сцвярджаючы, што берасцейска-пінскі дыялект—гэта ўкраінскі дыялект, пан Казлоўскі спасылаецца на Я. Карскага, М. Дурнаво, М. Сакалова, Д. Ушакова, «Дыялектычны атлас беларускай мовы» (1963 г.) АН БССР, В. Мартынава, Ф. Клімчука, М. Сцепановіч падае гістарычныя факты: склад насельніцтва ў 1897 г. у Гарадзенскай губерні, факт падпісання Брэсцкага міру ў 1918 г. Цэнтральнаю Радаю УНР, у выніку чаго Брэст, Пінск, Лунінец адышлі да УНР. Нагадвае аўтар і пра тое, што ў час Айчыннай вайны гэтая частка Берасцейшчыны падпарадкоўвалася г. Роўна, навучанне тут вялося на ўкраінскай мове, выходзіла газета «Наше слово», а ў час Польшчы тут працавала КПЗУ, «Просьвіта», «Сельсоюз», «Сельроб». Выходзілі і пры паляках украінскія выданні: «Сельроб», «Наше слово», «Воля народу», часопіс «Вікна», было 127 бібліятэк «Просвіты». Згадваюцца і пісьменнікі з гэтай зямлі — Д. Фалькоўскі, А. Гаўрылюк. Беларускія патрыёты сваіх контраргументаў не выстаўляюць. Таму шмат у каго застаюцца пытанні, нягледзячы на тое, што беларусамі людзі сябе лічыць не перастаюць. Спадар Уладзімір Калеснік, іншыя навукоўцы Брэсцкага педінстытута імя Пушкіна адмоўчваюцца, робяць выгляд, што нічога не адбываецца. Пра гісторыкаў Брэста наогул нічога сказаць нельга: маладыя, пэўна, і самі не разабраліся ў гісторыі краю, а старэйшыя займаюцца хутчэй партызанскім рухам ці «советским строительством» на Берасцейшчыне. У той жа час ёсць ужо шэраг выкладчыкаў, якія актыўна заняліся распрацоўкай гэтага пытання на карысць Украіны. Да таго ж, дадам, што сур'ёзны ўплыў робіць міграцыя з Валыні, адкуль шмат людзей ездзіць на працу ў Брэст і іншыя гарады. У 1990 г., наколькі мне вядома, некаторыя бацькі пад уплывам Казлоўскага ўжо спрабавалі адчыніць украінскія школы ў некаторых раёнах (у прыватнасці, Брэсцкім). Спробы, праўда, засталіся спробамі, але ж... шмат якія школы на вёсцы — расейскія. Патрэбна грунтоўная дапамога з Мінска — гістарычныя факты, асабліва часоў БНР і УНР, аналіз моўных асаблівасцей з доказамі, чаму гэта дыялект беларускі, дапамога кадрамі, асабліва гісторыкамі, і шмат што інш.

І апошняе. Наколькі мне вядома, ГКА «Полісьсе» (яцвягі), яго ўкраінская частка ў нядрэнных адносінах з Рухам. А праз сцвярджэнне аднолькавасці мовы на Валыні і на Берасцейшчыне нядоўга прыйсці і да высновы, што гэта ўсё ўкраінская мова, а значыць, канцэпцыя яцвягаў хутка знікае і застаецца адна ўкраінская канцэпцыя... Ды і сам М. Шаляговіч аднойчы сказаў, што калі не атрымаецца з яцвяжскай аўтаноміяй, то яны (г. зн. «Полісьсе») будуць змагацца за ўкраінскія школы...

**Ігар БАРАНОЎСКІ,**
**студэнт.**

г. Брэст.

**кую, здавалася б, адмоўную якасць характару нацыі, гэтаксама *як навучыліся* накіроўваць у патрэбнае рэчышча свой кансерватызм англічане».**

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ, навуковы супрацоўнік гістфака БДУ, г. Мінск, 25 год:**

**«Як навуковец, ведаю, што асаблівасці нацыянальнага характару, псіхічнага складу розных народаў вывучае спецыяльная навука —этнапсіхалогія. На жаль, у Саюзе (хай былым) яна пачынае фарміравацца толькі ў нашыя дні. Ведаю, што і ў рэспубліцы Беларусь на сённяшні час няма яшчэ аніякіх грунтоўных прац, прысвечаных даследаванням асноўных рысаў нацыянальнага характару беларускага народа.**

**Аднак ужо даўно ўсталяваліся думкі, што беларусы маюць такія маральна-духоўныя якасці, як талерантнасць (цярпімасць) да прадстаўнікоў іншых нацый, памяркоўнасць, працавітасць, добразычлівасць, сумленнасць, цярплівасць, адкрытасць, шчырасць, гасціннасць. Безумоўна, гэтыя меркаванні ў многім справядлівыя, з імі можна пагадзіцца. Але зараз нам *патрэбны сур'ёзныя, шматбаковыя* навуковыя распрацоўкі гэтай складанай праблемы.**

**Зразумела, не маюць пад сабою ніякіх падстаў сцвярджэнні некаторых вучоных і палітычных дзеячаў дакастрычніцкага часу аб беларусах, як аб «тупаватым», «няздольным да разумовай працы» народзе. Нават бацька М. Багдановіча Адам Багдановіч *ставіў беларусаў па* «тыпу душэўнага развіцця» ніжэй за «братоў-вялікаросаў». У той жа час сам Максім Багдановіч быў упэўнены, што «беларусы — вялікі народ».**

**На мой погляд, ёсць такія рысы беларускага нацыянальнага характару, якія было б добра дзеля будучыні незалежнай Беларусі пераадолець, перамагчы ў сабе. У першую чаргу, да такіх адмоўных рысаў неабходна аднесці ўласцівыя не толькі беларусам, але і ўсім славянскім народам маруднасць у прыняцці рашэнняў і выкананні *практычных* спраў, недастатковае ўяўленне аб выніках і следствах сваіх дзеянняў, а таксама значную падпарадкаванасць, залежнасць ад думак кіраўнікоў дзяржавы (у мінулым — цар, губернатар, цяпер — прэзідэнт і г. д.) і пэўную несамастойнасць, нерашучасць у штодзённым асабістым і грамадскім жыцці».**

**Яўген ВОЙНА, настаўнік Сортаўскай школы, Наваградскі р-н, 40 год:**

**«У беларускім нацыянальным характары ёсць адпаведныя рысы і прыкметы, якія маюць гістарычныя карані. Яны павінны быць атрыбутамі штодзённага жыцця. Гэта, у першую чаргу, сімвалы нашай нацыянальнай веры — крывіцкі шасціканцовы крыж, трыкалор: сіні — сімвал нябеснай апякункі Ефрасінні Полацкай і бел-чырвоны — сімвалы чысціні, добразычлівасці, мужнасці, пралітай крыві ў барацьбе за волю, за самазахаванне нацыі, мовы, культуры».**

**Уладзімір ЦУПРАНАЎ, інжынер-канструктар, г. Гомель, 30 год:**

**«Поруч са станоўчымі найбольш адметнымі рысамі характару — унутранай культурай, гуманнасцю, неабходна мовіць пра комплекс нацыянальнай непаўнавартасці. Як пазбавіцца гэтага? Сёння ў розных людзей — розныя памкненні. А адных — жаданне як мага хутчэй пазбавіцца гэтай недарэчнай «беларускасці», стаць нарэшце ці сапраўдным палякам ці часткай вялікага рускага народа. Другія дбаюць пра годнасць беларускага імя. І калі першыя з прычыны гістарычнай недасведчанасці памыляюцца па сутнасці, то другія, на мой погляд, думаюць фармальна. Нам не хапае пачуцця нацыянальнай годнасці, выхаваць якое павінна сістэма нацыянальнай адукацыі, сродкі масавай інфармацыі на падставе гістарычнай праўды. Каб убачыць сябе не пагарджанымі век беларусамі, а ліцві*намі, літоўцамі (не летувісамі)*, нашчадкамі найбольш уплывовага народа Вялікага княства Літоўскага, а не «княства беларускага». Каб вышэй узняліся нашы галовы...»**

**Віктар ЕРАМЕВІЧ, інжынер, г. Мінск, 56 год:**

**«Мы не вартыя таго, каб хваліць сябе за станоўчыя рысы характару. Бо некаторыя з іх даюць адмоўныя вынікі. Мы занадта памяркоўныя, добрыя. Нас як нацыю не прызнавалі, знішчалі фізічна і духоўна бальшавіцкія лідэры Ленін, Дзяржынскі, Мяснікоў і іншыя. А прозвішчы іх носяць і сёння вуліцы, пляцы амаль усіх населеных пунктаў рэспублікі. Ці можна нас за гэта паважаць? Не! Галоўная адмоўная рыса нашага характару — рабская пакорлівасць, якая прывяла нас да нігілізму, да адмаўлення ўсяго нацыянальнага. Нашы далёкія продкі мелі магутную дзяржаву, у якой дзяржаўная мова была беларуская. Нашчадкі не здолелі цалкам захаваць багатыя здабыткі сваіх продкаў, а мы наогул здрадзілі ім, адмовіліся ад іх. Не можа нас апраўдаць тое, што ў выніку асаблівых умоў мы былі пазбаўлены свайго мінулага. А ці было ў нас процістаянне? Я зайздрошчу балгарам, якія стагоддзямі *знаходзіліся пад асманскім* ігам, аднак ні асіміляцыя, ні прыгнёт не змаглі знішчыць іх як нацыю. Сіла духу дапамагла ім адстаяць сваю дзяржаўнасць. Я зайздрошчу і цыганам. Адсутнасць сваёй дзяржаўнасці, вандроўнае жыццё не з'явілася для іх перашкодай на шляху захавання сваіх традыцый, сваёй мовы».**

**Цяпер адносна чарговага пытання, на якое хацелася б пачуць адказы нашых чытачоў.**

**«Панікла жыццё ў цёмным лесе, агаліўся твар зямлі» — на парозе стаіць зіма. Адусюль чуюцца трывожныя галасы, што будзе яна ў нас халодная і галодная. ЯК МЯРКУЕЦЕ ВЫ? ЦІ СПРАЎДЗЯЦЦА ГЭТЫЯ БЛАГІЯ ПРАГНОЗЫ? ШТО ПРАКТЫЧНА РОБІЦЕ ВЫ, ВАШЫ СВАЯКІ, ЗНАЁМЦЫ І СУСЕДЗІ, КАБ СУСТРЭЦЬ І ПЕРАЖЫЦЬ ГЭТЫ (ПЭЎНА Ж, НЕ ЛЕПШЫ) ЧАС?**

Чакаем вашых адказаў 11 і 12 лістапада з 13 да 16 гадзін па тэлефоне 33-19-85.

**АДДЗЕЛ ПІСЕМ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

# ЗУСІМ БЛІЗКА АД ВАЙНЫ

## Славенія: не толькі фестывальныя ўражанні

«Куды вы едзеце? — здзіўлена пыталіся многія ў мяне і Валерыя Раеўскага, дазнаўшыся, што мы збіраемся ў Югаславію. — Хіба не ведаеце, што там...» І тым не менш менавіта ў такі час адмовіцца ад запрашэння прыехаць на традыцыйны тэатральны фестываль у Рэспубліку Славенію было, вядома, нельга: нас жа клікалі гасцямі ад таксама незалежнай і самастойнай Рэспублікі Беларусь.

Пасля Будапешцкага вакзала, куды спецыяльна, нягледзячы на ранні час, прыйшла пагутарыць з намі нястомная прапагандыстка беларускай культуры і літаратуры Шара Карыг, у вагоне, што ішоў да Загрэба, апрача нас, нікога не засталося. Праваднікі загадкава падміргвалі: маўляў, нічога, вы хлопцы на выгляд здаровыя, усялякае было, спынялі цягнікі і ўрываліся ў вагон у чорных масках і з аўтаматамі... Мы ж цешылі сябе загадкавасцю чакання і набіраліся смеласці і моцы ад найсмачнейшай венгерскай слівовіцы, што прынесла нам Шара Карыг...

Загрэб сустрэў бетоннымі і зробленымі з рэек супрацьтанкавымі загародкамі на скрыжаваннях, групкамі ўзброеных людзей у вайсковай форме на вуліцах. На шашы да Марыбора, на дзяржаўнай мяжы паміж Харватыяй і Славеніяй — узмоцненая праверка двойчы: пагранічнікамі і мытнікамі абодвух бакоў. Але ў Марыборы ўсё ўжо спакойна, горад жыве тэатральным фестывалем «Борштнікаўскія сустрэчы», названым так у гонар выдатнага славенскага акцёра першай паловы нашага стагоддзя Ігнація Борштніка. Праводзіўся фестываль дваццаць шосты раз.

Кожны драматычны тэатр маленькай Славеніі, а іх ужо з дзесятак, паказваў на фестывалі сваю лепшую пастаноўку мінулага сезона. У праграме былі «Гамлет» В. Шэкспіра і «Войцэк» немца Г. Бюхнера, «Івона, прынцэса Бургундская» паляка В. Гамбровіча і «Хто баіцца Вірджыніі Вулф» амерыканца Э. Олбі, дзве сцэнічныя версіі «Парубкаў» класіка славенскай літаратуры І. Цанкра, п'есы сучасных славенскіх драматургаў Душана Еванавіча, Маціяша Фабрыча, Дане Заяца, эксперыментальныя спектаклі новага тэатра «Глядзі» — «Рамэа і Джульета» і «Эрас, мастацтва, сістэма». Амаль усе спектаклі былі пазначаны захапленнем формай, пошукамі метафарычнай тэатральнай мовы. Адчувалася, што і славенскія тэатры актывізавалі змаганне за свайго гледача, за тое, каб усімі сродкамі прывабіць яго, зацікавіць сцэнічным мастацтвам.

24 кастрычніка ў Марыбор прыехаў прэзідэнт Рэспублікі Славенія Мілан Кучан. Ён адкрыў у адной з залаў горада выставу вядомага славенскага мастака Францэта Міхеліча, выступіў там з прамовай. Потым пабываў на фестывальным спектаклі. А на наступны дзень позна вечарам па ўсёй Славеніі загулі гудкі і сірэны — такім «салютам» вольная рэспубліка адзначала хвіліну, калі апошні салдат Югаслаўскай народнай арміі ступіў на трап карабля ў порце Копер і пакінуў Славенію. У выступленні па радыё і тэлебачанні М. Кучан падкрэсліў, што цяпер на тэрыторыі маладой свабоднай рэспублікі няма ніводнага іншаземнага салдата і створаны ўсе ўмовы, каб на практыцы ажыццявіць будаўніцтва суверэннай прававой дэмакратычнай дзяржавы.

У Марыборы, потым у Любляне, Крані мы бачылі звычайнае, даволі напружанае, але спакойнае жыццё вольнага і працалюбівага народа. Ёсць, вядома, і свае цяжкасці. Разарваліся пастаянныя эканамічныя сувязі, у выніку даражэйшым стала жыццё, ёсць прыкметы інфляцыі. Уведзена свая славенская валюта —толар (ці не аднакарэнная назва нашым талерам?), ствараецца свая нацыянальная гвардыя. Сувязі са знешнім светам ускладнены яшчэ і таму, што аэрапорт Любляна не працуе — міжнародныя авіяслужбы прызнаюць пакуль што толькі кампанію з цэнтрам у Бялградзе, а дарогі на поўдзень і ўсход перакрыты: зусім блізка ідзе сапраўдная вайна. Ужо сёння двухмільённая Славенія вымушана прымаць каля трыццаці тысяч бежанцаў з суседняй Харватыі.

Так, ідзе сапраўдная вайна. У газетах — трывожныя здымкі, паведамленні з гарачых кропак. «Дамоклаў меч над Дуброўнікам», «Вукавар — лёс Сталінграда», «Спыніць братазабойства», — вось толькі некаторыя загалоўкі на першых палосах. Распытваем людзей, у тым ліку і тых, хто быў ці жыў там, дзе страляюць,— сведкаў, відавочцаў. «Якія вы бачыце шляхі спынення канфлікту, прымірэння?» — пытаемся ў журналістаў, у іншых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. І высвятляецца, што ў тым, што мы ведаем пра падзеі ў Югаславіі, у тым, што пішуць пра іх ва ўсіх, нават самых дэмакратычных газетах Масквы і Мінска, — не ўся **праўда.**

Па-першае, дзяржавы, якая раней называлася Сацыялістычная Федэратыўная Рэспубліка Югаславія і якую і цяпер у нас па інерцыі так называюць, ужо не існуе. Напачатку, абвясціўшы сваю незалежнасць і самастойнасць, Славенія і Харватыя якраз настойвалі на захаванні канфедэратыўнага саюза ў межах былой югаслаўскай дзяржавы. Цэнтральнае і сербскае кіраўніцтвы ў Бялградзе тады не пагадзіліся. А цяпер, пасля таго як у чэрвені Югаслаўская народная армія пад камандаваннем артадаксальнага камуніста генерала Велькі Кадзіевіча накіравала свае ўзброеныя калоны ў рэспубліку, дзе абсалютная большасць насельніцтва прагаласавала за незалежнасць, калі армія пачала страляць у свой народ і распачала бамбардзіроўку і артабстрэл гарадоў і сёл, якія маркуецца потым перадаць Сербіі, — хто пасля ўсяго гэтага будзе гаварыць пра магчымую канфедэрацыю?

Па-другое, чамусьці нашы афіцыйныя ўлады, нашы органы масавай інфармацыі трактуюць падзеі ў Югаславіі як міжнацыянальны, міжэтнічны канфлікт. Магчыма, таму, што амаль уся інфармацыя ідзе толькі з Бялграда. Бялграду ж, дзе яшчэ трымаюць уладу сербскія камуністы, выгадна схаваць такія знаёмыя беларусам імперскія амбіцыі ідэолагаў-банкрутаў за шырму нацыянальную, нацыянальнай барацьбы, «патрыятычнага» змагання за абарону правоў сербаў у месцах іх сумеснага пражывання з харватамі. Да таго ж з'яўляецца прыдуманая пасля смерці І. Ціта групкай гісторыкаў-навукоўцаў (ведаем і мы такіх!) тэорыя, што сапраўдная Вялікая Сербія павінна займаць не цяперашнюю, а значна большую тэрыторыю. Менавіта таму і акружае ЮНА Вукавар, Асіек, Вінкаўцы, Сісак, Карловац, Госпіч, Здар, Пакрац, Буяр, Казарыцы, Шыбенік і іншыя населеныя пункты Харватыі. Вядзецца метадычны артылерыйскі абстрэл з усіх калібраў і бамбардзіроўка з паветра. Разбураюцца жыллёвыя і прамысловыя будынкі, дзіцячыя садкі і школы, дарогі і камунікацыі. Усё нішчаць пажары. Ад знішчальнага агню ўцякаюць усе — і сербы, і харваты. Ударамі з паветра і агнём гармат поўнасцю разбураны кафедральны сабор у Шыбеніку — унікальны помнік архітэктуры ранняга сярэднявечча. Метадычна і настойліва разбураюцца з дапамогай гармат ваенных караблёў югаслаўскага флоту помнікі Дуброўніка — жамчужыны Адрыятыкі. Загінуў ад прамога пападання бомбы ЮНА ў сваім доме пад Дуброўнікам сербскі паэт Міліч. Тактыка камандавання югаслаўскай арміі простая — знішчыць усё, разбурыць, а тады на маўклівыя руіны і прысак засяліць сербаў. Між іншым, падпалкоўнік, які камандуе атрадам харвацкай нацыянальнай гвардыі, што ўжо некалькі месяцаў гераічна абараняе Вукавар, — па нацыянальнасці серб.

Дык хіба гэта міжнацыянальны канфлікт? Хіба так бароняць правы меншасці ў «месцах сумеснага пражывання»? Уявіце сабе, напрыклад, што Савецкая Армія акружыла Рыгу, у порт зайшлі баявыя караблі ВМФ, і пачаўся метадычны артылерыйскі і авіяабстрэл горада, каб «абараніць рускае насельніцтва ад латышоў». Вельмі лёгка распачаць і тэарэтычныя разважанні: чыіх нацыянальных каранёў у Рызе болей... Вядома, вар'яцтва, іначай назваць гэта нельга.

Стараючыся апраўдаць адну з «противоборствующих сторон» (вельмі дзіўны тэрмін маскоўскай прэсы і нашых палітыкаў), многія аглядальнікі даводзяць, што канфлікт пачаўся тады, калі ў гады Другой сусветнай вайны усташы (харвацкія фашысты) па-зверску распраўляліся з сербскім насельніцтвам і партызанамі. Але тыя ж аглядальнікі забываюць, што, акрамя харватаў-усташоў, былі і харвацкія атрады народна-вызваленчай арміі. (Пра гэта, дарэчы, і спектакль быў у купалаўцаў — «Зоркі вечныя» Мацея Бора.)

Значыць, грамадзянская вайна на тэрыторыі былой Югаславіі — гэта канфлікт палітычны, ідэалагічны, калі неакамуністычныя кіраўнікі Сербіі і Югаслаўскай народнай арміі, каб захаваць сваю ўладу, імкнуцца разыграць нацыянальную карту і перафарбавацца ў лідэраў нацыянальных. Ніякімі перамовамі спыніць агонь і перастрэлку пакуль што не ўдаецца. Генерал В. Кадзіевіч, які камандуе ледзьве не чацвёртай у Еўропе па моцы і магутнасці, добра ўзброенай, з выдатна падрыхтаванымі ў савецкіх вайсковых вучылішчах і акадэміях кадрамі (каля 130 тысяч афіцэраў на такую невялікую краіну), нават не лічыць патрэбным адказаць на пасланне і запрашэнне лорда Карынгтона і прыехаць хоць на дзень у Гаагу на міжнародную канферэнцыю Еўрапейскага супольніцтва, прысвечаную падзеям у Югаславіі...

Рэспубліка Беларусь павінна была б прызнаць самастойнасць і незалежнасць вольных рэспублік Славеніі і Харватыі. Міністр Пётр Краўчанка як былы партыйны апаратчык, можа, чакае, што скажуць Б. Панкін, А. Козыраў ці яшчэ хто. А чаму маўчыць старшыня камісіі Вярхоўнага Савета РБ Пётр Садоўскі? Няўжо і ён чакае каманды з Масквы, каб хоць бы абмеркаваць на парламенцкай камісіі гэта пытанне?

Калі мы, беларусы, хочам, каб у свеце паважалі нас, давайце будзем паважаць народы, якія аднадушна выказаліся за самастойнасць і суверэнітэт сваіх дзяржаў. Тым болей, што ў Славеніі, напрыклад, усе вельмі зацікаўлены ў значным пашырэнні эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва і ўзаемаабмену з Рэспублікай Беларусь. Афіцыйным прызнаннем самастойнасці рэспублік Славеніі і Харватыі наш урад і Вярхоўны Савет важка пацвердзілі б, што суверэнітэт Беларусі — не папяровы, не ўяўны, а сапраўдны, рэальны і дзейсны, паказалі б, што і ў галіне знешняй палітыкі мы можам прымаць самастойныя рашэнні.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

# ЦІ ВЕРНЕМ ДЗЕЦЯМ РАДАСЦЬ?

**Як паведамлялася ў друку, вось ужо пяць месяцаў не выходзіць адзіны ў рэспубліцы часопіс для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў «Вясёлка». З раніцы да вечара не змаўкаюць у рэдакцыі тэлефонныя званкі, ідуць і ідуць пісьмы. Хвалююцца бацькі, настаўнікі, дзеці. Калі выйдзе «Вясёлка»? Як ёй дапамагчы? Ці можна падпісвацца на наступны год? Вось толькі адзін ліст, дасланы нам вучнямі 4 «Б» класа 3-й хойніцкай школы.**

«Паважаная рэдакцыя! — пішуць дзеці. — Нас вельмі ўсхвалявала, што «Вясёлка» больш не выходзіць. Амаль усе дзеці нашага класа вось ужо два гады выпісваюць «Вясёлку». І на наступны, 1992 год выпісалі. Гэта дапамагае нам цікава праводзіць урокі пазакласнага чытання, урокі беларускай мовы. А на перапынках мы разам чытаем смяшынкі, смяёмся, весялімся, разглядваем малюнкі.

Калі мы прачыталі ў раённай газеце «Ленінскі сцяг», што цябе, наш любімы часопіс, закрываюць, то вырашылі табе дапамагчы. На другі дзень хлопчыкі і дзяўчынкі прынеслі 42 рублі. Іх нам далі нашы мамы. Яны таксама некалі ў дзяцінстве выпісвалі «Вясёлку». 58 рублёў дала наша настаўніца, і мы пералічваем на твой спецрахунак № 707 801 — 100 рублёў. Мы вельмі спадзяёмся, што і іншыя хлопчыкі і дзяўчынкі таксама падтрымаюць цябе, «Вясёлка». Да пабачэння. Мы чакаем сустрэчы з табой! Вучні 4 «Б» класа: Краўчанка Дзіма, Ракаў Сяргей, Даніленка Саша, Данчанка Коля, Грыгаровіч Саша, Маркавец Надзея, Халюшкоў Яраслаў, Равяка Сяргей, Гаўрыльчык Ларыса, Шахніцкі Сяргей, Грышкавец Гена, Нікалаенка Люда, Радзько Дзіма, Назаранка Ігар, Бельскі Валодзя, Смальцар Саша, Бордак Алена, Ярмольчык Ганна, Лушч Толік, Агрынская Таня, Краўчанка Руслан».

Хіба ж можна спакойна чытаць гэты ліст? Дарагія дзеці, мы вельмі ўдзячны вам, вашым бацькам, настаўніцы (на жаль, вы не напісалі яе імя) за дапамогу, маральную падтрымку, за добрыя словы ў адрас нашага часопіса. Можа, прачытаўшы ваш ліст некаторым дарослым дзядзькам стане сорамна. Гэта па іх віне дагэтуль не выходзіць «Вясёлка», гэта па іх віне няма для яе паперы. Няўжо ў гэтых людзей не абудзіцца сумленне, няўжо не ўспомняць, што і самі былі дзецьмі, што і ў іх некалі былі любімыя часопісы і кнігі?

А пакуль яны маўчаць. Маўчаць зацята і ўпарта. Не маўчаць толькі тыя, каму неабыякавы лёс нашых дзяцей, унукаў, роднай мовы. Яны хвалююцца, звоняць у рэдакцыю, дасылаюць на «Вясёлку» свае дабрачынныя ахвяраванні.

Адказны сакратар Менскай рады БНФ «Адраджэнне» Г. Банкевіч паведаміў, што бацькі вучняў 38-ай школы збіраюць подпісы ў абарону «Вясёлкі». У голасе Генадзя Уладзіміравіча чуецца шчырая заклапочанасць. «Беларускі народны фронт вам дапаможа», — кажа ён.

Дзякуй Генадзь Уладзіміравіч. Ваша падтрымка, як і падтрымка многіх іншых людзей, нам зараз вельмі неабходная. Мы выказваем шчырую падзяку ўсім, хто падтрымаў нас у крытычнай сітуацыі, хто не застаўся раўнадушным да лёсу адзінага беларускага выдання для самых маленькіх, хто знайшоў магчымасць грашовымі сродкамі падтрымаць «Вясёлку»:

1. Рэспубліканскі ашчадны банк—50.000 руб.
2. Міністэрства будаўніцтва — 5.000 руб.
3. Мінскі рысорны завод — 5.000 руб.
4. Міністэрства культуры — 1.000 руб.
5. Міністэрства будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог — 10.000 руб.
6. Упраўленне беларускай чыгункі — 2.000 руб.
7. Таварыства «Веды» — 1.000 руб.
8. Нацыянальны банк «Беларусь» — 1.000 руб.
9. Барысаўхлебпрам — 10.000 руб.
10. Гомельхлебпрам — 3 000 руб.
11. СШ № 3 г. Хойнікі, вучні 4 «А» і 4 «Б» кл. — 175 руб.
12. Міністэрства мантажных і спецыяльных будаўнічых работ — 5.000 руб.
13. У. Паўлаў, г. Мінск — 100 руб.
14. І. Жук, г. Гродна — 50 руб.

На сабраныя сродкі па камерцыйных цэнах (12 тысяч рублёў за тону) мы купілі паперу для 6-га нумара «Вясёлкі», і ў бліжэйшыя дні дзеці атрымаюць доўгачаканы часопіс.

А што будзе далей?

**Т. ТАРАСАВА,**
**адказны сакратар часопіса «Вясёлка».**

# «Стаць гаспадарамі на сваёй зямлі!»

## Першы выхад Беларусі на міжнародную арэну

Першая сусветная вайна сталася вынікам супярэчнасцей паміж найбольш моцнымі дзяржавамі свету, імкнення іх кіраўнікоў да вырашэння праблем пры дапамозе зброі. Агрэсіўная сутнасць вайны прыкрывалася заклікамі да абароны свабоды і дэмакратыі ад «дзікуноў і варвараў». «Ныне предстоит... оградить честь, достоинство, целостность России и положение ее среди великих держав. Мы непоколебимо верим, что на защиту Русской земли дружно и самоотверженно станут все верные наши подданные. В грозный час испытаний да будут забыты внутренние распри, да укрепится еще теснее единение Царя с Его народом и да отразит Россия, поднявшаяся, как один человек, дерзкий натиск врага», — заклікаў Маніфест, які быў выдадзены царскім урадам у пачатку вайны.

За авантурыстычную палітыку кіраўнікоў Расійскай імперыі расплачваліся народы, якія ўваходзілі ў яе склад, у тым ліку і беларусы. Мабілізацыя ў царскую армію адарвала ад роднай зямлі шмат сялян з беларускіх вёсак. Ад пачатку вайны да вясны 1915 г. Беларусь страціла толькі палоннымі і прапаўшымі без вестак 317853 чалавек.

Пасля адыходу расійскай арміі ў 1915 г. беларускі край быў рассечаны фронтам па лініі Дзвінск — Паставы—Баранавічы — Пінск, у выніку чаго пад уладу нямецкіх акупантаў трапілі Віленская, Гродзенская і частка Мінскай губерні з агульнай колькасцю насельніцтва ў 3977700 чалавек. Другая частка Беларусі (Віцебская, Магілёўская, частка Мінскай губерні) засталася пад уладай Расіі.

Тутэйшым жыхарам даставалася ад абодвух ваюючых бакоў. Рэквізіцыі, гвалт, рабункі, цяжкія прымусовыя работы сталі звычайнай з'явай для беларусаў. Шукаючы паратунку ад бедстваў вайны, яны пакідалі родныя мясціны. Да патоку бежанцаў-добраахвотнікаў далучаліся выгнаныя гвалтоўна. «...Адступаючая расейская армія гнала перад сабою людзей, як быдла, у варунках самых цяжкіх і негігіенічных...», — апісваў сведка працэс такога адыходу ў газеце «Беларуская Думка» ад 14 мая 1919 г. Паводле У. Ігнатоўскага, у выніку добраахвотнай і прымусовай эвакуацыі ва ўсходніх раёнах Расійскай імперыі ў час першай сусветнай вайны апынулася каля 2 мільёнаў беларускіх жыхароў.

Цяжкае становішча народа не магло не хваляваць беларускую інтэлігенцыю, якая ў пачатку XX стагоддзя зрабіла шмат дзеля абуджэння ў беларусаў пачуцця сваёй нацыянальнай і чалавечай годнасці. Трэба, аднак, заўважыць, што дзеячы нацыянальнага руху на Беларусі разам з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў вайну падтрымалі. «...Беларуская інтэлігенцыя на вайну ішла ахвотна.., ішла, разумеецца, не як абаронца, а як удзельніца ў працы для знішчэння існуючага ладу і ў гэтым напрамку вяла ўпартую барацьбу»,— пісаў адзін з відных дзеячаў нашага Адраджэння П. Крачэўскі.

Падтрымаць царскі ўрад барацьбітоў за самастойную Беларусь прымусіла надзея на магчымасць змянення існуючага становішча. Пэўныя падставы для такой надзеі былі. Напрыклад, у жніўні 1914 г. ад імя вярхоўнага галоўнакамандуючага расійскай арміі вялікага князя Мікалая Мікалаевіча быў выдадзены маніфест, у якім абвяшчалася аб намеры кіраўніцтва Расійскай імперыі дараваць па заканчэнні вайны шырокую аўтаномію Польшчы.

Але ў адносінах да Беларусі палітыка царскага ўрада засталася нязменнай. Яскравым прыкладам таму з'яўляюцца словы С. Сазонава, якія, дарэчы, былі напісаны ўжо па вайне, у эміграцыі: «В управлении Западной Русью и заодно с ней Литвою, более сильно, но далеко не окончательно ополяченной, «антипольская политика» была законна и целесообразна так же, как з отношении к Царству Польскому она была ошибочна и вредна». Вось так характарызаваў палітыку фактычнай «дэбеларусізацыі» краю чалавек, які ў 1914 г. займаў пасаду міністра замежных спраў Расіі і адыграў значную ролю ў паяўленні на свет маніфеста па Польшчы. Царскія ўлады перашкаджалі спробам стварыць беларускія арганізацыі і камітэты па дапамозе бежанцам, спасылаючыся на тое, што беларус нічым не адрозніваецца ад жыхара Тульскай ці Пензенскай губерні і таму ніякіх сваіх нацыянальных арганізацый яму не патрэбна.

Трэба заўважыць, што і з боку левых рэвалюцыйных плыняў у Расіі ідэя самастойнасці Беларусі не знаходзіла падтрымкі. Эсэры, сацыял-дэмакраты і анархісты больш арыентаваліся на звяржэнне царызму і «экспрапрыяцыю экспрапрыятараў», чым на вырашэнне нацыянальных праблем. Напрыклад, вельмі многія члены РСДРП падзялялі пазіцыю тады яшчэ мала каму вядомага І. Джугашвілі-Сталіна, выказаную напярэдадні вайны: «...Культурно-национальная автономия не разрешает национального вопроса. Мало того: она обостряет и запутывает его, создавая благоприятную почву для разрушения единства рабочего движения, для обособления рабочих по национальностям, для усиления трений между ними». (Яскрава праявіцца негатыўнае стаўленне да беларускай дзяржаўнасці ў снежні 1917 г., калі будзе прымусова распушчаны I Усебеларускі з'езд. Дарэчы, у гэты час Сталін будзе займаць пасаду наркома па нацыянальных справах).

Не знаходзячы падтрымкі з боку расійскіх улад і рэвалюцыянераў, змагацы за самастойную Беларусь ускладаюць свае спадзяванні на Германію. Германскі ўрад скептычна ставіўся да магчымасцяў беларускага нацыянальнага руху. «Немцы спачатку зусім не разбіраліся ў нацыянальных справах нашага краю,— успамінала беларуская эмігрантка Юльяна Дубейкаўская. — Яны знаді расейцаў, палякаў, жыдоў, часткова летувісаў, але беларусы былі для іх чымсьці новым». Германскі дарадчык па беларускіх справах фон Бекерат адзначаў у запісцы да ваеннага камандавання на Усходнім фронце: «Беларусы не выказвалі ніколі імкнення да дзяржаўнай самастойнасці... Некаторыя імкненні сепаратыстычныя, якія развіваюць некалькі археолагаў у літаратараў у Вільні, трэба аднесці да мясцовых спраў, якія не маюць палітычнага значэння...»

Тым не менш улады рэйха падтрымалі намаганні беларусаў. Такім чынам яны, па-першае, аслаблялі Расію як свайго праціўніка ў вайне, а, па-другое, аслаблялі антыгерманскія настроі ў польскім асяроддзі, выкарыстоўваючы супярэчнасці паміж палякамі і беларусамі.

Вельмі значным для справы «беларусізацыі» краю было тое, што ў гэты час у Вільні знаходзіліся многія вядомыя дзеячы беларускага нацыянальнага Адраджэння: браты Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Вацлаў Ластоўскі, Францішак Аляхновіч, Язэп Салавей і інш. Іх намаганнямі былі створаны такія арганізацыі, як «Беларускі камітэт для дапамогі пацярпеўшым ад вайны», «Беларускі Настаўніцкі Саюз», «Беларускі клюб», «Цэнтральны Саюз нацыянальных грамадскіх арганізацыяў», з 1916 года пачала выходзіць газета «Гоман», друкаваная лацінкаю і кірыліцай.

Вялікая праца праводзілася па адраджэнні дзяржаўнасці Беларусі. Менавіта беларусы сталі ініцыятарамі пагаднення з прадстаўнікамі літоўцаў, палякаў і яўрэяў аб стварэнні Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага. 15 снежня 1915 г. у Вільні быў выдадзены на чатырох мовах «Універсал» аб стварэнні Вялікага княства з раўнапраўных аўтаномных частак — Літвы і Беларусі. Праз некаторы час, у лютым 1916 г. у «Адозве Рады Канфедэрацыі» была дадзена больш ясная фармулёўка яе палітычнай платформы: прадугледжвалася стварэнне літоўска-беларускай дзяржавы ў межах Ковенскай, Віленскай і часткі Мінскай губерняў, беларускай і літоўскай частак Сувалкскай, Гродзенскай і Курляндскай губерняў з поўным забеспячэннем праў усім нацыям на названых землях, скліканне Устаноўчага Сойма ў Вільні з мэтай распрацоўкі канстытуцыі новай дзяржавы на падставе ўсеагульных, роўных, непасрэдных і тайных выбараў. На жаль, гэтая ідэя так і не ажыццявілася з-за пазіцыі літоўцаў, якія больш імкнуліся да саюза з латышамі, і палякаў, якія ўвогуле арыентаваліся на стварэнне Жэчпаспалітай у межах 1772 г., а Беларусь разглядалі як «крэсы ўсходнія».

У гэтых умовах узнікла неабходнасць заявіць аб сабе як аб самастойным народзе. Лепш за ўсё было зрабіць гэта на міжнароднай канферэнцыі, якая магла б прыцягнуць увагу сродкаў масавай інфармацыі і такім чынам пазнаёміць свет з цяжкім становішчам Беларусі. Зрабіць такое выступленне патрэбна было і па той прычыне, што ў час сусветнай вайны за межамі бацькаўшчыны — у Злучаных Штатах Амерыкі, Канадзе, Аргенціне і Бразіліі — засталіся сотні тысяч беларусаў. Газета «Вольная Беларусь» у нумары 25, напрыклад, даводзіла, што ў 1917 г. за акіянам жыло амаль 500 тысяч былых жыхароў Літвы і Беларусі.

Вельмі ўскладняла становішча беларусаў за акіянам палітыка «амерыканізацыі». Найбольш актыўна яна праводзілася ў Канадзе і ЗША, дзе неасцярожныя выступленні ў пачатку вайны з боку некаторых славянскіх лідэраў (напрыклад, галіцыйскіх украінцаў) у падтрымку Германіі і Аўстра-Венгрыі выклікалі адказную хвалю — прымусовае вывучэнне англійскай мовы, прыпыненне дзейнасці школ і іншых нацыянальных арганізацый. Апрача гэтага, пад час вайны пашырыўся ўплыў на масу «тутэйшых» (так звычайна называлі сябе за мяжой перасяленцы з беларускага краю) з боку рускай праваслаўнай і польскай каталіцкай царквы з мэтай русіфікацыі альбо паланізацыі парафіян-беларусаў. Амерыканскія чыноўнікі фактычна падтрымлівалі гэтыя намаганні. Беларусы на працягу доўгага часу не фігуравалі ўвогуле ў амерыканскай статыстыцы, таму што іх адносілі альбо да рускіх, альбо да палякаў. Тыя асобныя дзеячы, што прайшлі праз ідэі адраджэнскага руху ў родным краі, у Амерыцы засталіся гарачымі беларускімі патрыётамі, не здолелі аб'яднаць суайчыннікаў, каб супрацьстаяць палітыцы асіміляцыі з боку амерыканцаў, рускіх і палякаў. Выступленне ж на міжнароднай канферэнцыі з заклікам аб дапамозе радзіме магло падштурхнуць да стварэння нацыянальных арганізацый беларусаў у краінах Новага Свету.

Менавіта карыстаючыся гэтым планам, беларускія дзеячы прынялі ўдзел у Канферэнцыі народаў Расіі, якая адбылася ў маі (па старым стылі — у красавіку) 1916 г. у Стакгольме. Найважнейшымі вынікамі канферэнцыі сталі заява аб стварэнні «Лігі інародцаў Расіі» і адпраўка тэлеграмы да прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі В. Вільсана, тэкст якой быў апублікаваны ў шведскай газеце «Дагенс Нюхетэр» ад 10 мая 1916 г. Тэлеграма пачыналася наступнымі словамі: «Звяртаемся да Вас, спадар Прэзідэнт, у нашай бядзе, як да галоўнага барацьбіта за гуманнасць і справядлівасць, а праз Вас і да ўсіх тых, хто ставіцца з прыязнасцю да людзей. Мы жадаем давесці да ўсіх аб тым горкім лёсе, які чакае нашых суайчыннікаў і аднаверцаў з боку Расіі. Звяртаемся мы таксама праз Вас, спадар Прэзідэнт, да саюзнікаў Расіі, будучы ўпэўненыя, што іх любоў да свабоды і пачуццё справядлівасці павінны абурыцца ўціску, які прычыняе нам нясцерпныя пакуты.

Мы, прадстаўнікі прыгнечаных народаў і інаверных суполак у Расійскай імперыі, абвінавачваем рускі ўрад перад усім цывілізаваным светам і молім аб дапамозе і абароне ад знішчэння».

Далей прадстаўнікі розных народаў — фінаў, літоўцаў, латышоў, остзейскіх немцаў, палякаў, яўрэяў, украінцаў, грузін, расійскіх магаметан і беларусаў — выказвалі свае прэтэнзіі да расійскага ўрада. Прадстаўнікі ад Беларусі, у прыватнасці, абвінавачвалі ўлады імперыі ў імкненні да асіміляцыі беларускага насельніцтва, інфармавалі грамадскасць аб цяжкім становішчы, у якім апынулася іх Бацькаўшчына ў час вайны. Ад імя беларускага народа тэлеграму падпісалі Вацлаў Ластоўскі і Язэп Салавей.

Трэба заўважыць, што стварэнне Лігі насіла ў асноўным дэманстрацыйна-палітычны характар. Яна ўвогуле не праявіла сябе нічым, акрамя згаданай тэлеграмы і выдання ў тым жа годзе ў Швецыі і Амерыцы кнігі «Ці ведаеце вы Расію?» на англійскай мове (пазней кніга была перакладзена яшчэ на некаторыя мовы). Старонкі 140—145 XI раздзела кнігі былі прысвечаны гісторыі і культуры Беларусі.

Зварот да прэзідэнта ЗША, разам з тым, быў адной з першых спроб нацыянальных лідэраў перайсці ад падтрымкі Германіі да апоры на краіны Антанты. Але Францыя і Англія ў час цяжкіх баёў за Вердэн на Заходнім фронце не жадалі адмовіцца ад падтрымкі расійскага царызму на карысць прыгнечаных ім народаў. 11 мая 1916 г. газета, у якой быў змешчаны тэкст тэлеграмы народаў, паведаміла чытачам, што англійскі ўрад затрымаў тэлеграму да прэзідэнта.

У адказ на гэта 14 чэрвеня 1916 г. у стакгольмскай газеце «Афтонбладэт» з'яўляецца новы заклік: «Да ўсех суайчыннікаў і сяброў» наступнага зместу: «Мы, балты, латышы, літоўцы, палякі, рускія, яўрэі, украінцы, беларусы, магаметане і грузіны, што знаходзіліся дагэтуль пад уладай Расіі, аб'ядналіся ў звароце да Першага грамадзяніна найвялікшай нейтральнай дзяржавы, у якой свабода з'яўляецца найгалоўнейшай асновай Канстытуцыі — да Прэзідэнта Паўночна-Амерыканскіх Злучаных Штатаў. Мы прынеслі яму скаргу на наша бядготнае становішча і паведамілі аб нечуваных пакутах, на якія Расія асудзіла нас, мы прасілі яго аб дапамозе. Мы яшчэ не атрымалі адказу, ды і не патрабуем яго, бо вельмі добра ведаем, што нялёгка яму будзе падшукаць найбольш здатнае вырашэнне для адказу.

Мы, аднак, не сумняваемся ў яго жаданні дапамагчы нам, бо ён больш за ўсіх іншых павінен быць змагаром за гуманнасць і справядлівасць. Мы імкнемся толькі аблегчыць выкананне яго найсумленнага намеру. Таму мы звяртаемся цяпер да нашых суайчыннікаў ва ўсім свеце і ў асаблівасці да тых, хто самі альбо продкі якіх пакінулі прыгнечаную рускімі Бацькаўшчыну дзеля таго, каб знайсці новы дом у вольнай краіне.

Мы звяртаемся да ўсіх, хто адчувае, як мы, хто ведае, што адбывалася ў Расіі ў мінулы час і адбываецца ў нашы дні, хто абураецца пазбаўленнем правоў, рэлігійным праследваннем, тайным паклёпам і адкрытай прадажнасцю, нястрыманым рабункам, забойствамі і гвалтам над бязвіннымі, няўмысным пагарджаннем да бедных, няшчасных людзей, і запрашаем іх далучыцца да нашага саюза і прыняць удзел у нашай працы.

Наша мэта — пазнаёміць чалавецтва з сапраўдным нашым лёсам. Дзеля гэтага мы перадаем дакументы і карэспандэнцыю, якія даюць карціну таго страшэннага прыгнёту, якому падвяргаюцца інародныя нацыянальнасці ў Расіі. Мы запрашаем нашых суайчыннікаў і сяброў распаўсюджваць іх у друку і лістах і абмеркаваць, чаму наш лёс, урэшце, стаў нясцерпным. Мы спадзяемся на справядлівасць, якая часта праяўлялася з боку нацый, што цяпер уваходзяць у саюз з Расіяй. Яны не ведаюць, што Расія, злоўжываючы саюзам з імі і менавіта прыкрываючыся ім, чыніць нечуваныя злачынствы супраць сваіх падданых з мэтай вынішчэння чужых нацыянальнасцяў непасрэдна на іх роднай зямлі».

Заклік да суайчыннікаў і сяброў стаў яшчэ адным крокам насустрач III Кангрэсу нацый, які адбыўся 27—29 чэрвеня 1916 г. у Лазане. Кангрэс быў арганізаваны «Саюзам Нацыянальнасцяў», створаным у 1911 г. з мэтай азнаямлення сусветнай грамадскай думкі з этнаграфічным, гістарычным, літаратурным, эканамічным і сацыяльным становішчам «малых» народаў. З моманту свайго заснавання да 1916 г. Саюз арганізаваў два кангрэсы — у 1912 і ў 1915 гадах. Але больш значным па выніках стаў менавіта III Кангрэс, на адкрыцці якога прысутнічала 400 дэлегатаў — прадстаўнікоў 23 нацый з розных (у асноўным еўрапейскіх) краін.

Галоўным дакументам, які быў прыняты на з'ездзе народаў, стала Дэкларацыя правоў нацыі. Яе артыкулы прадугледжвалі абарону правоў асобы як часткі нацыі («Ніхто не павінен быць прыгнечаным альбо абражаным за прыналежнасць да пэўнай нацыі ці за вызнанне пэўнай рэлігіі»), абарону калектыўных правоў нацыі, права на культурна-нацыянальную аўтаномію і імунітэт нацыі супраць эканамічнай эксплуатацыі, інтэрнацыяналізацыю мораў, праліваў і марскіх каналаў.

Вельмі значнай для прадстаўнікоў нацый была магчымасць адкрыта паведаміць аб сваіх бедствах, выставіць нейкія патрабаванні і ўвогуле звярнуць на сябе ўвагу. Менавіта карыстаючыся гэтым намерам, рыхтаваліся да кангрэсу

(Працяг на стар. 12).

# Чытайце бюлетэнь «Новыя кнігі»

Адметнай рысай нашага часу з'яўляецца цікавасць да роднай гісторыі, культуры, мовы. Але наўрад ці хто-небудзь мае магчымасць праглядаць усю друкаваную прадукцыю, каб знайсці патрэбную інфармацыю. Дапамагчы ж у гэтым могуць бібліяграфічныя дапаможнікі, у прыватнасці штомесячны бюлетэнь «Новыя кнігі БССР», які выдае Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна. Многія, магчыма, не ведаюць пра існаванне такога выдання. А яму ж летась споўнілася 30 гадоў. Напэўна, гэтае няведанне можна растлумачыць тым, што бюлетэнь адрасаваны ў першую чаргу бібліятэчным работнікам. Менавіта яны павінны знаёміць чытачоў з бібліяграфічнымі дапаможнікамі. Але ў грамадстве склаліся недаравальна абыякавыя адносіны да бібліяграфіі, да руплівай працы бібліёграфа.

Што ж прапануюць «Новыя кнігі БССР» сёння? Пачынаецца выданне раздзелам «Навінкі беларускага друку». Ён інфармуе аб новых кнігах, у тым ліку і кааператыўных выдавецтваў, і найбольш значных, цікавых артыкулах з папулярных рэспубліканскіх газет і часопісаў. Тым, каго цікавіць гісторыя рэспублікі, яе надзённыя праблемы, карысна будзе сачыць за літаратурай, што падаецца ў раздзеле «Пра Беларусь і беларусаў».

Наступны раздзел — «Папулярна аб усім» — прапануе літаратуру па ўсіх галінах ведаў, пра тое, што адбывалася і адбываецца ў свеце.

У трэці раздзел «Мастацкая літаратура» ўключаны звесткі пра творы як асобна выдадзеныя, так і надрукаваныя ў беларускіх часопісах. Асаблівая ўвага ўдзяляецца тым аўтарам, якія былі незаслужана забыты, рэпрэсіраваны і раней публікаваліся вельмі мала ці не публікаваліся наогул. Раздзел «Кнігі — дзецям» прадстаўляе юным чытачам новыя выданні навукова-папулярнай і мастацкай літаратуры, казкі. Спецыялісты розных прафесій атрымаюць інфармацыю аб новых кнігах у раздзеле «У дапамогу прафесійнаму чытанню».

Выбраць лепшыя кнігі па той ці іншай галіне ведаў, пазнаёміцца з ацэнкай крытыкаў новай літаратуры дапаможа наступная частка бюлетэня «У полі зроку рэцэнзента».

Цікавымі для многіх чытачоў, на нашу думку, будуць і бібліяграфічныя матэрыялы да беларускага календара, якія штомесяц змяшчаюцца пад загалоўкам «Памятныя даты».

**У адным з апошніх нумароў бюлетэня штогод змяшчаецца спіс памятных дат беларускага календара на наступны год.**

**Бюлетэнь павінен быць у любой масавай бібліятэцы. А найбольш зацікаўленыя могуць на яго падпісацца. Індэкс выдання 74972. Кошт гадавой падпіскі — 5 р. 40 к.**

**І. НАРЧУК,**
**загадчык сектара навукова-бібліяграфічнага аддзела Дзяржбібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.**

# «Мы дойдзем!»

## Юрка Віцьбіч: знаёмства праз гады

Ідэя артыкула абумоўлена дзвюма акалічнасцямі. Першая — нікім нідзе не адзначаныя ўгодкі беларускага пісьменніка, памёршага ў эміграцыі — Юркі Віцьбіча. Другая — ужо добра вядомы артыкул В. Акудовіча і спрэчкі, што разгарнуліся вакол яго. Праблема ўласнага шляху беларусаў стала цэнтральнай у «Даследзінах беларускага светагляду» І. Абдзіраловіча, «Пра «цывілізацыйныя асновы» беларускага гістарычнага працэсу» Л. Акіншэвіча, «Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў Беларусі» Р. Максімовіч — так што гісторыя пытання налічвае не адзін дзесятак год. В. Акудовіч у згаданым артыкуле пісаў пра належнасць нашай літаратуры (лепшых яе ўзораў) да заходнееўрапейскай традыцыі, выказваў патрэбу разглядаць у такім аспекце і творчасць беларускіх пісьменнікаў.

Набліжанасць да гэтай традыцыі асабліва выразная ў беларускай гістарычнай прозе 20—40-х гг. Датычыцца сказанае і Юркі Віцьбіча. Паколькі яго імя яшчэ мала што кажа чытачу, хочацца, няхай і са спазненнем, ушанаваць яго памяць*.

Юрка Віцьбіч (Стукаліч) нарадзіўся 15 чэрвеня 1905 г. у г. Веліж Віцебскага павета ў сям'і дыякана (бацька скончыў духоўную семінарыю і служыў у адной з Веліжскіх цэркваў). Хлопца з маленства вабіла новае, нязнанае. Аднак скончыў ён толькі некалькі класаў, бо неўзабаве пасля рэвалюцыі зачыніліся гімназіі. Так афіцыйнай адукацыі ён і не атрымаў.

Усведамленне сябе беларусам прыйшло рана. 11 лістапада 1918 г., калі Юрку было 13 год, у Веліжскім павеце пачалося вялікае антыбальшавіцкае паўстанне, жорстка падаўленае. У ім бралі ўдзел каля 50 тыс. сялян і мяшчан. Афіцыйнага кіраўніцтва, штаба не было — паўстаў народ. Падставай выбуху сталі ўчынкі чэкістаў, набор у войска. Па начах святары вучылі дзяцей беларускай мове, знаёмілі з гісторыяй, геаграфіяй, літаратурай Беларусі.

Быць пісьменнікам Ю. Віцьбіч марыў з дзяцінства — колькі сябе памятае. Пісаў шмат, на самыя розныя тэмы, аднак за пачатак сваёй творчасці лічыў 1929 г., калі ў часопісе «Узвышша» надрукаваў апавяданне «Млынарава рука». Тады прыход Віцьбіча ў літаратуру вітаў К. Чорны: ён напісаў маладому пісьменніку ліст—своеасаблівы «дыплом на пісьменніка». У гэтым часопісе Ю. Віцьбіч друкаваўся да 1931 г., калі «Узвышша» перастала існаваць. Большасць аўтараў перайшла ў часопіс «Полымя рэвалюцыі». Аднак подых «Узвышша», яго ідэі настолькі глыбока ўвайшлі ў істоту Віцьбіча, што значна пазней, у эміграцыі, ён абвесціць літаратурным маніфестам: «Я — Узвышэнец».

А пакуль што Ю. Віцьбіч туліцца з сям'ёю ў маленькім пакойчыку без усялякіх выгод на ўскраіне Віцебска. Працуе шмат — адно за адным з'яўляюцца ў друку апавяданні «Смерць Ірмы Лаймінг», «Кватэра 34», «Argon», «Ветры Заходнія» — большасць з іх увойдзе ў першы зборнік пісьменніка «Смерць Ірмы Лаймінг» (1932 г.). У № 5 было надрукавана апавяданне «Арцыбіскуп і смерд». У аснову пакладзены сапраўдны гістарычны факт — забойства Язафата Кунцэвіча ў 1623 г. У тканіну апавядання багата ўведзены цытаты з вядомага ліста Льва Сапегі да Кунцэвіча, твораў Мілеція Сматрыцкага, што само па сабе было нечакана. Як прыхільнік праваслаўя, Віцьбіч намаляваў Язафата адной чорнай фарбай — гэта наогул характэрна для беларускай мастацкай літаратуры, ды й гістарычных прац. Аднак вось што кажа галоўны герой аповесці — Янка, на баку якога, без сумнення, сімпатыі аўтара:

«Побач з Янкам закрычаў тлусты цэхмайстар:

— Смерць Язафату. Маем толькі Мілецію!

Пачуўшы нібы скрозь сон гэты крык, Янка звярнуўся да цэхмістара і выціснуў праз змогу з роту:

— Яны, свінячы гладыш, абое рабое — і Язафат, і Мілецій!».

Можна, безумоўна, сцвярджаць, што гэта голас чалавека 30-х гг., «воинствующего безбожника». А можа, пісьменнік пісаў гэта, памятаючы словы, што сказаў у свой час пра забойства Язафата В. Ластоўскі ў «Кароткай гісторыі Беларусі»: «У гэтым змаганні часта здараліся з **абедзьвух** старон крыўды і няпраўды».

У прыгаданай раней працы «Важнейшыя моманты...» Р. Максімовіч разважае пра належнасць беларускага народа да еўрапейскіх, адзначае, што яму ўласціва талерантнасць, пашана да прававой думкі, і піша: «Усе важнейшыя рэлігійныя светапоглядныя перамены ў Беларусі... адбываліся... без крывавых братагубных змаганняў. Гісторыя Беларусі не ведае інквізіцыйных агнёў, ані Баўтрамейных ночаў. Гэта наскрозь чужое псіхіцы беларускага народу. Адзіны вядомы выпадак гвалтоўнай народнай рэакцыі на настырлівы рэлігійны фанатызм — забойства япіскапа Язафата Кунцэвіча ў Віцебску ў 1623 г. мае ў аснове сваёй чужыя, небеларускія прычыны». Мабыць, і Віцьбіча непакоіў лёс беларусаў, іх шлях?

Гэта тым больш верагодна, што яго наступная аповесць — «Лшоно Габоо Бійрушалайм (Налета ў Ерусалім)». Год друкавання — 1932. Звернем увагу толькі на падкрэсліванне Ю. Віцьбічам нацыянальнай талерантнасці беларускага народа, пра што чытаем у «Важнейшых мамэнтах»: «Характэрна таксама для псіхіцы беларускага народу тое, што чужыя нацыяналізму. Ды іншаверныя ім жыды (гэта найменне яўрэяў з'яўляецца літаратурнай нормай беларускай мовы ў эміграцыі, без негатыўнага сэнсу. — **Л. Ю.**) не толькі знайшлі на беларускіх землях гасцінны сабе прытулак і магчымасць жыцця... Гісторыя беларуска-жыдоўскіх дачыненняў не ведае ніякіх гвалтаў ды ніякіх тэндэнцый да расавага прыніжэння». Віцьбіч імкнуўся асэнсаваць — сябе, сваё месца, беларусаў увогуле, іх ментальнасць, месца ў гісторыі народаў.

Безумоўна, сэнс аповесці не зводзіцца толькі да гэтага. Трагедыя галоўнага героя Стася— трагедыя і І. Абдзіраловіча («Дзве душы»), Лясніцкага («Сцежкі-дарожкі»), які не можа прыняць руйнаванне таго, што яшчэ ўчора было святым для яго, не можа адшукаць сваё месца. Раней ён чытаў Маркса і Бебеля, зараз — Евангелле, Шапэнгауэра, Шпенглера. «Прыйшлі новыя людзі і над імі ўзыходзіць новае сонца... Калі б у мяне цяпер была граната, я б шваргануў яе ў тых, што разбіраюць касцёл Марыі Магдалены, але ж я інтэлігент з вялікай галавой, трухлявым асяродкам і нікчэмнымі мускуламі. Боль, які вялікі боль!». Як кажа ў аповесці ксёндз Яранім, «гісторыя — гэта прыплывы і адплывы культур». Мабыць, у нечым Стась больш мужны за аналагічных герояў беларускай літаратуры: ён не толькі цвяроза разумее ўсё, што адбываецца вакол. Ён робіць свой выбар. «І зараз настаў час людзей, якія вымятаюць непатрэбны ім пыл мінулага. І здаецца, што я ёсць гэты пыл». Стась страляецца. Але невядома, хто перамог, хто пераможаны. Нездарма «Ліст самазабойцы да сэрцам чулых» Стася напісаны стылем, які нагадвае Евангелле.

У аповесці не ўбачылі сцвярджальны пафас новага, бо яго там і не было. Як зазначыў М. Клімковіч, «ад цёплых, мастацка-высокіх месц — дзе Віцьбіч піша пра старажытнасць, пра тое, над чым ён сумуе і што блізка яму — да зрываў, да голай рыторыкі, да разважлівага дыялога ў тых месцах, дзе пачынаецца савецкая ідэалогія».

Аповесці не даравалі. У жыцці Ю. Віцьбіча пачаўся чорны перыяд. І раней Саюз пісьменнікаў не вельмі прыхільна сустракаў маладога аўтара, а з 1934 г. пачынаецца самае сапраўднае цкаванне, у якім прымалі ўдзел і П. Броўка, і А. Александровіч, і іншыя. Але болей за ўсіх стараўся М. Клімковіч, тагачасны старшыня праўлення. «Зарубілі» дзве кнігі за «нацдэмаўскі дух», спынілі публікацыю твораў, а ў часопісах пачалі з'яўляцца артыкулы, дзе гучаць усё новыя, больш важкія «аргументы».

Вось некалькі цытат з «Полымя рэвалюцыі» за 1934 г. № 1: «З большай пільнасцю прыглядаемся мы да сваіх спадарожнікаў, самі ўскрываем відавочныя элементы прыстройкі Віцьбіча, які пад савецкай тэматыкай хавае сваю класавую прыхільнасць да разбітага намі ворага». № 4: «Віцьбіч выражае напор на літаратурную мову варожых нам пластоў класавага грамадства; сам выражае нацдэмаўскія ўплывы на інтэлігенцыю». № 6—7: «Ад Віцьбіча зараз залежыць: ці стаць савецкім пісьменнікам, ці павярнуцца ў лагер класавага ворага — з усімі вынікамі, якія з гэтага вынікаюць». У кнізе «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу» (1934 г.) пляжылі і правапіс, і пісьменнікаў. І Віцьбічу дасталося — ставілася ў віну «архаізаваная мова», «слёзы па яўрэйскай патрыярхальнай самабытнасці», «стыль сярэдневяковых палацаў», «выразная дваранска-нацыяналістычная сутнасць». (Цікава, што ўжо ў 60-я гг. у тым самым абвінавачвалі і У. Караткевіча Так, на з'ездзе пісьменнікаў П. Броўка ў сваім дакладзе пахваліў эрудыцыю пісьменніка і пажадаў: «трэба паказваць жыццё народа, менш захапляцца побытам князёў»).

Але нешта змянілася, і ўжо ў 1935 г. Ю. Віцьбіч зноў друкуецца: ні тэматыцы, ні мове ён не здрадзіў. Можа, крыху змяніліся акцэнты, больш завуалявана ставіліся пытанні. Так ці інакш, «Полымя рэвалюцыі» змяшчае адно за адным яго апавяданні «Эжэн Дэлякруа», «Адоніс», «Альдэбаран», «Марыля» (яно вельмі цікавае тыпалагічнай сувяззю з «Чорным замкам Альшанскім» У. Караткевіча), «Рэкрут імператара Паўла». У 1937 г. выходзіць новы зборнік апавяданняў — «Формула супраціўлення касцей». Крытыкі (тыя самыя) пачынаюць ухваляць распрацоўку гістарычнай тэматыкі. На пасяджэнні праўлення ССП БССР 3—4 лютага 1941 г. творам Ю. Віцьбіча было адведзена асобнае месца. П. Глебка, А. Якімовіч, М. Лынькоў, К. Крапіва выказаліся, што Віцьбіч належыць да тых пісьменнікаў, каго крытыка несправядліва абыходзіць, і сышліся на тым, што ён павінен сабраць, падагульніць увесь матэрыял і ад асобных апавяданняў перайсці да стварэння вялікага эпічнага палатна. Вырашылі выпусціць і новы зборнік з гістарычнымі апавяданнямі.

Зборнік выпусціць не паспелі, не паспеў напісаць «эпічнае палатно» і Ю. Віцьбіч. Пачалася вайна. Сёння мы ўжо больш ведаем пра яе. Ведаем, што частка насельніцтва Беларусі ўспрыняла вайну як вызваленне, як пачатак сваёй самастойнай гісторыі, аднаўленне дзяржавы. Гэта не іх віна, а іх бяда. Сярод тых, хто паверыў у новае жыццё, быў і Юрка Віцьбіч (як і большасць паваенных эмігрантаў).

Віцьбіч не адкладае пяра. З друку выходзяць дзве кнігі нарысаў-апавяданняў «Вяліскія паўстанцы» і «Нацыянальныя святыні». (Пісьменнік наследваў В. Ластоўскага і стварыў своеасаблівы жанр апавяданняў-нарысаў, дзе знітаваны ў адно непарушнае цэлае мінулае і сучаснасць, легенда і праўда, Беларусь і сам аўтар). Аднак яго поле дзейнасці — не толькі стол. Пісьменнік вандруе па Беларусі, даследуе яе архітэктурныя помнікі. На ўсё жыццё запомніў разбураную сінагогу ў Магілёве, дзе быў разам з З. Бядулем, запомніў, як цяклі слёзы па яго твары. Таму апісвае тыя, што яшчэ засталіся. Віцьбіч вандруе так шмат, быццам здагадваецца, што больш ніколі не ўбачыць тых мясцін, пра якія будзе пісаць усё жыццё. Ён прысутнічае ў Катыні на эксгумацыі польскіх жаўнераў, расстраляных НКУС. У 1943 г. у дзіцячай калысцы перавозіць з Віцебска ў Полацак урну з астанкамі Ефрасінні Полацкай, патронкі горада. Віцьбіч працаваў на Беларусь, а адступаў разам з фашыстамі.

Іронія гісторыі...

Юрка Віцьбіч ішоў на Захад. М. Целеш, беларускі пісьменнік-эмігрант, прыгадвае, як шукалі Арбайтсштат, каб стаць на ўлік, атрымаць працу і карткі на харчаванне. Было гэта ў лютым 1946 г. Віцьбіч ішоў разам з сям'ёю. Было халодна, пальцы ног счарнелі. А ён ішоў і казаў:

— Іду і думаю: скончыцца вайна і паўстане Беларусь вольнай і незалежнай. Што з намі будзе? Сшалеем ад радасці?

Ю. Віцьбіч, як і ўсе астатнія эмігранты, напачатку апынуўся ў лагеры для палітычных дзеячаў. Што гэта былі за лагеры, лепей за ўсё даведацца з кнігі Алеся Вініцкага «Матэр'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гг.» (Лос-Анжэлес, 1968 г.). Там, у лагеры, пісьменнік бярэцца за наладжванне выдавецкіх спраў — мабыць, адзінага сродку аб'яднання эмігрантаў на чужыне. 9 красавіка 1946 г. ім створана літаратурнае згуртаванне «Шыпшына» і часопіс з такой жа назвай, пра якую Віцьбіч пісаў, што гэта «назоў сымбалічнае кветкі, якая стала за нацдэмаўскія часы аднэй з нацыянальных эмблемаў і знайшла адбітак у творчасці бяз выключэння ўсіх рэпрэсаваных бальшавікамі літаратараў, якая для беларуса тое, што для ірляндцаў трыпутнік»). Сем нумароў часопіса было выдадзена ў Нямеччыне, два — у ЗША. Часопіс выступіў як нашчадак ідэй і традыцый «Узвышша» і аб'яднаў бадай лепшыя сілы беларускіх пісьменнікаў у эмі-

* Няхай даруе чытач пэўную фрагментарнасць апісання жыццёвага шляху пісьменніка: усе звесткі, факты, успаміны вышукваліся па даваенных выданнях, у сучаснай замежнай беларускамоўнай перыёдыцы.

грацыі. Па эміграцкіх колах хадзіла эпіграма К. Міхася:

Не, не крывёю, а чарнілам
Ён паражае д'ябла сілы.
І на узвышша шляхам чыну
Вядзе праз немарач
«Шыпшыну».

У тым жа 1946 г. Юрка Віцьбіч арганізаваў і «Часопіс праваслаўных беларусаў «Звіняць званы Св. Сафіі». (Назву часопісу даў адзін з уласных твораў пісьменніка). У асноўным тут змешчаны нарысы Віцьбіча — «Св. Крыж Прэпадобнай Ефрасінні», «Беларусь заўсёды з намі», «Аб чым крычыць каменне», «Можна зняць звон, але нельга знішчыць народ» і інш.

Аднак творы Ю. Віцьбіча з'яўляюцца не толькі на старонках «сваіх» часопісаў. Ён актыўна друкуецца ў газетах «Беларус», «Бацькаўшчына», у «Запісах Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва». Піша і апавяданні, і нарысы, і фельетоны, і крытычныя артыкулы. Творы Віцьбіча насычаны багатым пазнавальным зместам — этнаграфічнымі, гістарычнымі звесткамі, паданнямі. Адсюль, спачатку з Нямеччыны, потым з ЗША, пісаў пра мінскія помнікі і брукаванку, легендарных дзеячаў і сваіх паплечнікаў. Выдаў дзве кнігі «Не чарнілам, а крывёю» — першая прысвечана тым, каго ведаў да вайны, другая — беларускім эмігрантам. Яго праца ў «Новом русском слове» па-сапраўднаму тытанічная: звыш 200 публікацый (па падліках беларусаў-эмігрантаў) далі магчымасць усім на Захадзе і Амерыцы, хто ведае рускую мову і чытае названы часопіс, даведацца, што гэта такое — Беларусь.

Таму меў рацыю А. Салавей, калі пісаў пра Ю. Віцьбіча: «Віцьбіч з'яўляецца чалавекам, які больш як хто іншы аддаў сілаў, думкі і крыві за беларускую справу. Юрка Віцьбіч належыць да тых, каму цудам пашчасціла застацца жывым, не апынуўшыся там, дзе апынуліся нашы найлепшыя пісьменнікі — носьбіты й краса беларускага мастацтва... Адмаўляць сёння Ю. Віцьбіча як пісьменніка — гэта значыць рабіць пагром на беларускай літаратуры на эміграцыі».

Ва ўсіх сваіх творах Ю. Віцьбіч імкнуўся да аб'ектыўнасці, непрадузятасці. Пра сябе ён пісаў: «Аўтар... не бярэ на сябе ролі пракурора або адваката... Ён абмяжоўваецца роляй следчага, паклікаючыся на нешматлікіх сведкаў і маючы права на свет мысляў. І разам з тым ён спадзяецца, што сам чытач зробіць на падставе сабранага следчым матэр'ялу належных справядліваму суддзі прысуд».

Віцьбіч рана зразумеў, што любое групаванне — кепска. І ў гэтым выявілася яго «еўрапейскасць». Яму прапаноўвалі ў эміграцыі стварыць згуртаванне беларускіх паэтаў і празаікаў з іх часопісам ці газетай. Аднак Віцьбіч адмовіўся— ён быў прыхільнікам некалькіх згуртаванняў (як некалі на Беларусі), што садзейнічала б росквіту літаратуры. Ён казаў, што пайшоў у эміграцыю, каб захаваць сваё права на ўласныя погляды і на іхняе выказванне.

Юрка Віцьбіч — адзін з тых, хто стварыў беларускую гістарычную прозу, хто зрабіў з яе самастойны жанр. Нават неглыбокі аналіз паказвае, наколькі адметны сам падыход у распрацоўцы тэм, бачанне ходу гісторыі, яе каштоўнасцей. Савецкая рускамоўная гістарычная проза нясе на сабе адбітак таталітарнага мыслення. Гэтая асаблівасць выявілася і ў тым, што цэнтральнае месца ў творы заўсёды займае буйная гістарычная постаць або нейкі волат-барацьбіт. У Ю. Віцьбіча, як і ў іншых беларускіх пісьменнікаў (Я. Дыла, В. Ластоўскі, Б. Мікуліч, М. Зарэцкі), галоўную ролю выконвае сам народ-творца. Калі ж з'яўляецца гістарычная постаць, яна малюецца без прыўкрас, незалежна ад таго, «наша» яна ці не «наша». («Арцыбіскуп і смерд»).

Набліжэнне да еўрапейскага свету ў паэзіі зрабіў М. Багдановіч. У мастацкай прозе такі крок зрабілі гістарычныя творы. Яны давалі магчымасць зліць у адно цэлае шырыню еўрапейскай думкі, яе талерантнасць, пашырыць межы формы, адарвацца ад этнаграфізму, выйсці за межы «адраджанізму», як сказаў Л. Гмырак. Паспрабаваць магчымасці фармалізму (Ю. Віцьбіч), фантастыкі (якая стала адметнай і досыць трывалай рысай беларускай гістарычнай прозы — у асобных творах В. Ластоўскага («Лабірынт»), М. Гарэцкага («Лірны спеў», «Фантазія»), А. Гаруна («Маладое», «У Панасавым сяле»), што характэрна для заходнееўрапейскіх літаратур і адсутнічае ў рускамоўнай гістарычнай прозе.

Па-за ўсім ляжыць рознасць беларускай і расейскай культур, належнасць іх да розных цывілізацыйных асноў. І гэтая думка не з'яўляецца новай. Яшчэ ў 20-х гг. В. Ластоўскі ў «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі», у прадмове да «Расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка» пісаў пра візантыйскі ўплыў на Маскоўшчыну і яго вынікі і пра адсутнасць гэтага ўплыву ў культуры і свядомасці беларусаў. Пазней тую ж думку па-мастацку выказаў Я. Дыла ў рамане «На шляху з варагаў у грэкі». Аднак і расейцы прызнавалі негатыўнае значэнне ўплыву Візантыі. (М. Дабралюбаў. Пра рускі гістарычны раман). Гэтую акалічнасць улічвалі і аўтары прац, узгаданых на пачатку артыкула. У чым сутнасць уплыву? Як піша Р. Максімовіч, «Нягледзячы на доўгія стагоддзі ўплываў бізантыйскіх вонкавых культурна-мастацкіх формаў, беларускі народ аднак не пераняў і крыхі такіх псіхічна-духовых асаблівасцяў Бізантыі, як дагматызм ды цэзаранізм, якія гэтак глыбока ўспрыняліся ды ўраслі ў спрыяльную для іх, відаць, духовую глебу суседняй Маскоўшчыны». Так гістарычна аўтары тлумачаць беларускі дэмакратызм, талерантнасць, праўнасць — як трывалыя спрадвечныя элементы беларускай псіхікі і свядомасці.

Мы былі еўрапейскім народам. І мы павінны вярнуцца — у Еўропу. Можа, і гэтае вяртанне меў на ўвазе Ю. Віцьбіч у адным з найлепшых апавяданняў часоў эміграцыі «Мы дойдзем»: «І мы ідзем далей. Ідзем праз дзень, праз ноч. Ідзем і ўзімку, і ўлетку. Ідзем у навальніцу і ў спёкі. Мы цягнем з сабой у сціплых хатках наўтольны сум, што балейшы ад Гімалаяў і глыбейшы за Атлянтыку. І ніколі не можа стацца, каб мы не дайшлі нарэшце да свае непаўторнае любові, да сінявокае Беларусі. Занадта вялікае наша замілаванне ёю і занадта глыбокая варажнеча да ейных ворагаў, каб гэтае не здзейснілася. Але я бачу, як нечакана спазма сціснула вам горла і задрыжэлі вашы вусны. На нашых нагах кроў, і крывёю сцякаюць нашы сэрцы. Дык дайце руку і пойдзем далей. Вунь, бачыце, там, далёка, далёка, дзе яснейшае неба, зноў сінеюць рэкі, чарнеюць лясы і ўздымаюцца ўзгоркі. Мы дойдзем, мы абавязкова дойдзем! Пашчасліў нам божа! Так станься!».

На жаль, сам Юрка Віцьбіч не здолеў дайсці да роднай Беларусі. Пісьменнік памёр 4 студзеня 1975 г. Пахаваны ў Саўт-Рыверы на Беларускіх праваслаўных могілках, дзе побач спачыла яго маці. Выйшаў жалобны нумар «Беларуса», у Таронце Віцьбіча адпяваў арх. Мікалай, у штаце Ілінойс — а. Я. Тарасевіч. Толькі ў нас ніхто не адгукнуўся...

Юрка Віцьбіч часта любіў паўтараць: «Фігуральна гаворачы, каб ацаніць, якая высокая ёсць гара, трэба адысці ад яе на пэўную адлегласць».

Здаецца, мы ўжо на дастатковай адлегласці, каб ацаніць і творчасць пісьменнікаў-эмігрантаў, і лёс, які прайшоў беларускі народ, каб у будучым не збіцца са сваёй шляху.

**Лявон ЮРЭВІЧ,**
**аспірант Інстытута літаратуры АН Рэспублікі Беларусь.**

# НЕПРЫМУСОВА ДАЛУЧАЦЬ...

## «Скарбы сусветнай літаратуры»: першыя тамы выдавецкай серыі

На гэтыя густоўна аздобленыя (для эстэтаў? эліты?) кнігі вы, пэўна, звярталі ўвагу неаднойчы. Чорныя агатавыя тамы з залатым скарынаўскім знакам захапляюць, прыцягваюць. З назіранняў: рускамоўныя чытачы з задавальненнем гартаюць старонкі, праглядаюць малюнкі і часта — купляюць, бо немагчыма чалавеку, улюбёнаму ў Літаратуру, прайсці міма твораў Шэкспіра, Апулея, Лонга, Мерымэ, Хемінгуэя... Для такіх людзей (і дзякуй Богу!) мова выдання не мае прынцыповага значэння: дакладней, яны ведаюць, што іншая славянская мова ўзбагаціць іх душу, надасць новае значэнне твору, падкрэсліць тыя радкі, якія, верагодна, маглі застацца па-за ўвагай... Для беларусага ж чытача гэта сапраўднае свята — мець сусветнага ўзроўню кнігу ва ўласнай бібліятэцы.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» распачало вялікую справу — адукаваць нас непрымусова, надаўшы таму выпадковасць (але за ўсім гэтым — прадуманасць, цяжкая праца перакладчыкаў — толькі з арыгінала, а таксама рэдактараў, усіх, хто мае дачыненне да выпуску: выбіць, знайсці адпаведную паперу, дамовіцца з лепшымі мастакамі і да т. п.). А ў чым выпадковасць? Сёння ты ідзеш у кнігарню і вольна набываеш творы Шэкспіра, а праз колькі часу — Гётэ. Ці наадварот. На выбар... Памятаю, у дзяцінстве я доўга хадзіла па бібліятэках свайго правінцыйнага гарадка, каб адшукаць «Санеты» У. Шэкспіра. Аднак, калі б была магчымасць прачытаць усё гэта па-беларуску, можа, хутчэй прыйшло б адчуванне годнасці і болю за лёс сваёй мовы... А калі б тое адчуванне — для кожнага з нас ТАДЫ? Ці стаў бы такім марудным шлях да нашай незалежнасці?

У кнізе Уільяма Шэкспіра, выдадзенай у 1989 г. (мастак Віктар Мікіта, пераклады У. Дубоўкі, К. Крапівы, Ю. Гаўрука), сабраны, акрамя санетаў, і трагедыі «Рамэа і Джульета», «Гамлет, прынц Дацкі», «Кароль Лір». Творчасць геніяльнага Шэкспіра — вяршыня літаратуры эпохі Адраджэння. А яго п'есы трывала ўвайшлі ў рэпертуар тэатраў усяго свету. Цікавасць да яго спадчыны нясканчоная. Таму гэтую кнігу будзем чытаць не толькі мы, але й нашыя дзеці і ўнукі... «Краса ніколі не памрэ на свеце,— Тварэнні дзіўныя прыносяць плён...» Менавіта гэтымі радкамі пачынаецца кніга. Найвялікшы, найкаштоўны плён дае судакрананне з творчасцю вялікага літаратара. У чытанні сам-насам зліваюцца дзве душы: аўтара і чытача. І свет наш незаўважна для нас становіцца светлым, поўным рамантыкі і кахання...

Упершыню на беларускай мове ў перакладзе з арыгінала выйшлі творы сусветна вядомых антычных аўтараў Лонга і Апулея «Пастушыная гісторыя пра Дафніса і Хлою» і «Метамарфозы, ці Залаты асёл». Пра час стварэння рамана Лонга (пер. А. Клышкі) можна меркаваць умоўна: ён быў напісаны прыкладна ў II—V стст. нашай эры. Невядома і дакладнае месца паходжання аўтара. Найбольш пэўнае, што можна сказаць пра яго,— ён быў улюбёны ў Старажытную Грэцыю, яе краявіды, мову, літаратуру. «Пастушыная гісторыя пра Дафніса і Хлою» — гэта хваласпеў каханню, ён чуцен у кожным радку. Эрас — бог кахання — нябачны галоўны герой твора. На прыкладзе двух падкідышаў — Дафніса і Хлоі — добра праглядаецца аўтарская думка, што лішніх дзяцей няма, каб іх кідаць ці адракацца. Гэтая тэма ў нейкай ступені блізкая і нашаму грамадству, калі згадаць, колькі дзяцей пакутуе ў інтэрнатах, дамах дзіцяці... Нам усім так не хапае чысціні, сумлення, ахвярнасці... Але гэта тэма для іншай размовы.

Аўтар рамана «Метамарфозы, ці Залаты асёл» нарадзіўся прыкладна ў 124—125 г. н. э. на зямлі, якая завецца зараз Алжырам. Апулей быў заўзятым вандроўнікам, меў славу мага. І ў «Метамарфозах» шмат містычна-магічных тэм, тут жа паведамляецца нам пра побыт, умовы жыцця і норавы старажытных людзей. Кампазіцыйны твор складаецца з раздзелаў, у якія ўплецены 12 навел, большасць якіх носіць авантурна-крымінальны і эратычны характар. «Вось я хачу збаяць табе, чытач, розныя мілецкія казкі, якія павінны пацешыць твой слых...» — так пачынаецца кніга першая. Трэба дадаць, што, як сцвярджае П. Бітэль, аўтар прадмовы і перакладчык, эпітэт «залаты» даваўся зазвычай творам, якія мелі вялікі поспех. А слава рамана Апулея не знікла зараз, не счэзне і пасля.

Выданне аздоблена цудоўнымі малюнкамі вядомага беларускага мастака Міколы Селешчука.

У той жа серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» была выдадзена кніга Тараса Шаўчэнкі «Вершы. Паэмы». Уплыў вялікага песняра Украіны на беларускую літаратуру зазначыў яшчэ М. Багдановіч. Сёння імя Тараса Шаўчэнкі вядома ўсяму культурнаму чалавецтву. Натхнёнае слова Кабзара даходзіла і на Беларусь: па словах Купалы, беларускія сяляне спявалі песні Тараса Шаўчэнкі, не ведаючы, хто іх складаў. Лёс дзвюх краін, Украіны і Беларусі, падобны: прыгнёт, знявага, знявечаныя нацыянальныя сімвалы, занепад мовы.

Кругом няпраўда і няволя,
Народ замучаны маўчыць.
І на апостальскім прастоле
Чарнец адкормлены
сядзіць.
Крывёй гандлюе
пад'ярэмных
І рай у наймы аддае!..

(Ерэтык)

Ці не праўда — недалёкім часам гэтыя радкі маглі тычыцца і нашай Радзімы?

«Хочацца спадзявацца,— піша К. Хромчанка,— што і наш сучаснік, знаёмячыся з Т. Шаўчэнкам на сваёй роднай мове, успрыме яго паэзію ва ўсёй невымернай глыбіні яе зместу і адчуе пры гэтым сапраўдную асалоду ад судакранання з хвалюючым, вечна жывым словам украінскага паэта».

Выдавецтва працягвае слаўныя традыцыі «залатога часу» беларускага адраджэння 20-х гг., калі выходзілі якасна аздобленыя, добра перакладзеныя кніжкі рускіх аўтараў, у тым ліку і дзіцячыя: Носава, Чукоўскага. У нашых кнігарнях ужо з'явіўся том М. Гогаля «Мёртвыя душы. Тарас Бульба. Рэвізор». У хуткім часе будзе выдадзены том выбранай прозы І. Буніна і А. Купрына.

У серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» чытач знойдзе творы І. Гётэ, Шолам-Алейхема, Я. Райніса, І. Вазава. Зусім нядаўна выпушчаны наступны том гэтай серыі: Э. Хемінгуэй «Па кім звоніць звон» у выдатным перакладзе В. Небышынца.

Гэта кнігі, дзякуючы якім выдавецтва «Мастацкая літаратура» набліжае нас да Еўропы. Наша з вамі справа — як хутка мы да яе наблізімся...

**В. КУРТАНІЧ,**
**рэдактар па рэкламе выдавецтва «Мастацкая літаратура».**

# ПЫТАЙЦЕСЯ І КУПЛЯЙЦЕ!

Магчыма, гэтае сціплае выданне не кінецца вам у вочы. тады запытайцеся ў прадаўцоў. Маю на ўвазе кніжку-размалёўку «Як кот звяроў напалохаў». Кажаце, хапае гэтых самых размалёвак, паспявай толькі купляць? Усё так, шмат іх, прытым з шэрай газетнай паперы і — чысцютка ўсё на «великом и могучем». Гаворка мая — пра зусім іншую, адметную кніжку, ці не першую, выпушчаную ў Беларусі... па-беларуску.

Падрыхтавалі яе Беларускі фонд імя Рэрыхаў сумесна з фотацэнтрам, аддрукавалі на Мінскай картаграфічнай фабрыцы. Папера — высокага гатунку. Малюйце, дзеткі, алоўкам, малюйце фламастэрам, фарбамі карыстайцеся — вытрымае, не распаўзецца, не парвецца!

Праўда, цана крыху кусаецца. Шматлікія «ширпотребовские» размалёўкі звычайна па капеек пяцьдзесят. Гэтая — рубель з паловай. Але, зрэшты, што лепей — адну кніжку купіць, каб дзіця магло доўга ёй карыстацца, ці некалькі, якія даводзіцца тут жа выкідваць? Акрамя ўсяго, кніжка-размалёўка «Як кот звяроў напалохаў» стане яшчэ для вашых дзетак і свайго роду падручнікам па беларускай мове.

Адным словам, пытайцеся і купляйце!

**А. М.**

**Аляксей РУСЕЦКІ**



## Крумкач нашага лёсу

Трыста год крумкач кружыўся
чорным крыжам лёсу
над сялібамі, прасторай
пушчаў, ніў і плёсаў.

І лунаў і павісаў ён,
не спыняўшы лёту,
чакаў смерці душам нашым
з захаду і ўсходу.

Смерць ачмурная гуляла —
радасна крумкочыў,
што бяспамятным, бязмоўным
выдзеўбе ён вочы.

Век злавесны крумкачовы
трыста год — не болей...
Мы жывём, не паддаліся
смерці й чужой волі.

Сцвердзім зноўку перад светам
наша слова й годнасць,
дух і славу Беларусі
роднай несмяротнай.

## Вечаровыя вобразы

Напіўся конь з камягі, паўз калодзеж
скрыгоча галькай, вуліцаю «ўдвору»
нясе прамень апошні ў падбароддзі
да брамы, крытай заімшэлым дорам.

Яго вітае віскатам кароткім
Дунай вясёлы па-сабачы — шчыра,
затым пускае ў двор свіней чародку
рабых настырных, строга па ранжыру.

Сваіх няўцямна стоўпленых авечак,
у браму гоніць... Гасне пыл ружовы,
бляянне моўкне, аціхае вечар,
ідуць хадой паважнаю каровы.

У двор ступае гордая Красуня
з багатым вымем і здароўя й моцы,
пасля у змроку, далятае з пуні
струменяў звон у цынкавай даёнцы.

Жывёльнай тут супольнасцю рахманай
сапаты сон паціху заўладарыць,
хоць шчэ пастух стаіць з трубой бляшанай,
гамоніць дзесь пра дзеі на папары.

Ды мне вядома, што было ў тым полі...
Не спіцца на дванаццатым паверсе:
шчанюк суседскі за сцяной скуголіць
і мроіцца маленства ў паднябессі.

## Паклон зямлі

Дзень сонечнай гарачай галавой
схіліўся нізка да зямлі ў паклоне;
настаў і мой, самотны вечар мой,
маё свяціла за лясамі тоне.

І я схіляю белую маю
замілавана да зямлі з падзякай
за боскі дар — крынічную брую,
за шчодрасць глебы,
хлеб з адменным смакам.

З удзячнасцю схіляю галаву,
што мову красак зведаў,
птаства слухаў,
і нашы песні, першую з навук
прайшоў падлеткам
і з касой і плугам.

Тады саманадзейна абяцаў
зрабіць зямлю багатай і прыгожай,
каб голас яе песенна гучаў
у белы май і срэбную парошу.

А што ж прыдбала на маім вяку
зямля з найменнем вольнай, чыстай, белай,
з якой атрутай рэкі скрозь цякуць,
з якой бяды, знямелая, счарнела!!

Душа згарае ад пакутных дум,
што дзесь ліхую не спыніў навалу,
каб не аддаць жывую плоць на глум,
ці ж розуму, ці сілы не ставала!

Схіляюся ў паклоне, смутна мне...
Але ж існуе той вышэйшы розум —
зямля мая народзіць, як даўней,
асілкаў на карысць людскому лёсу.

●

А ісціны старыя — не рыззё,
іх паўтараем зноўку са здзіўленнем:
усё праходзіць, незваротна ўсё
і нельга нат на міг спыніць імгненне.

Мінуламу, быломў наўздагон
з пашанай шлюцца словы шкадавання,
або з гаркотай, з крыўдаю — праклён
нязмоўклых і нясправджаных жаданняў.

Угледзець бы ўсяму мне часу зрэз,
як дрэва зрэз і гадавыя кольцы,
з якімі ўвыш імкнецца мудры лес,
хай больш ці менш, а набірае моцы.

## Гранільшчыкі слова

...Тлум і дым, рэдакцыя ці клуб!
Вырывае цыгарэту з губ
запальчыва зноў рукой двухпальцай
колішні ваяка «вершазнаўца»:
— Слухайце, а сёння вы чыталі!
Трапіўся на вочы зранку «ЛіМ»,—
вершы там на зайздрасць нам усім...
«Крытык генеральны» белы шалік
кідае на левае плячо,
з хітраю смяшынкаю ў вачох:
— Дай на зуб мне,
дай радок паэта,
з бляскам і фальшывая манета...
— Што твой зуб,— крычыць паэт Буян,
віцебскі бядовы партызан,—
зуб сталёвы — хрэна ўчуеш ты;
свой прывёз бы з вечнай мерзлаты —
не пісаў бы так пра «Смерць Маланні»...
Пра яе ж у Ціхім акіяне
ўсім чытаў пад мачтаю матрос,
от ён чуў — скажы!..
— Ой, хлопцы, — дос!
Балбатні ўжо аж занадта марнай,
сёння ж дзень святочны — ганарарны...
Гуртам выйшлі, рушылі наўпрост
адвячоркам снежным;
Свіслач, мост,
а вышэй і недалёкі «Нёман».
Там куток пад пальмаю знаёмай,
там — усе з пагібельных дарог,
на развод мо ашчаджаў іх Бог!
Кожны з чаркай і са словам свежым;
тосты, спрэчкі, зноўку рыфмы, вершы,
і няхай збоч слухае сусед:
мусібыць нядрэнны ён паэт
знанай службы...

●

Дух неадольны крапівы
стаіць на сонечным угрэве
між прыдарожнае травы
і ў нерухомым ценю дрэва.

Аптэчны дух, шчымлівы пах
цяпер трывожыць і вяртае
праз далеч часу і працяг
да сцежак у бацькоўскім краі.

Там неаднойчы хлапчуку
рудая крапіва ля тыну
пякуча стрыкала руку
мо дзеля гэтага ўспаміну.

Наўкола робіцца мілей
усё, што з нейкае нагоды,
хоць і назойліва, але
нагадвае — адкуль ты, хто ты.

Як паведамлялася ў мінулым нумары, у гарадах Ніжні Ноўгарад і Яраслаўль святкавалася 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Туды выязджалі афіцыйная і творчая дэлегацыі Беларусі, адбываліся вечары і канцэрты, іншыя юбілейныя мерапрыемствы.

Змяшчаем апавяд пра другую частку святкавання, звязаную з яраслаўскай зямлёй.

# Свята Максіма




## II. Яраслаўль

У Яраслаўлі ішоў дождж. Паўсюль дагэтуль, дзе праходзілі юбілейныя святкаванні, сонечна было: у Ялце і Мінску ў маі, у Вяззі ў жніўні, у Ракуцёўшчыне ў верасні, у Ніжнім Ноўгарадзе 8—14 кастрычніка. 15 кастрычніка 1991 года ў Яраслаўлі ішоў дождж. А так —сонечна паўсюль. Калі не лічыць прасветленых слёз Ялты. І хмарка тая — з аўчынку. Ад гатэля насупраць Марпорта набярэжнаю Чорнага мора дайшла да помніка Лесі Украінкі на вуліцы Літкенса і — дождж. Між кветак мая, упярэмешку з імі — зіхоткі сонечны дождж. Дажджынкі трапілі на бронзавы лік Паэткі, і з яе правага вока па шчацэ пакацілася слязіна, дакацілася да губоў і... застыла. А я чамусьці адчула салёны смак слязы. Плакала Ялта. Плакала Леся. Плакала прасветлена. Гэта была сляза суму?— што замала пагасцявала ў Лесіным Доме—Музеі Лесі Украінкі — яго, Максіма Багдановіча, юбілейная выстава на стэндах-складнях.

А цяпер гэтыя стэнды-складні везлі мы ў Яраслаўль. У дажджлівы кастрычніцкі дзень пасля Пакроваў Божае Маці. Немалой талакой з Ніжняга Ноўгарада ў Яраслаўль ехалі музейнікі, пісьменнікі, артысты, рэжысёры... Яшчэ ў будынку чыгуначнага вакзала прыветная радыёжурналістка Людміла Вахмяніна, беручы ў мяне ранішняе інтэрв'ю пра Максімавы ўрачыстасці, паспачувала:«Мы вас очень ждали. Ярославцы знают о торжествах. Жаль, вот только дождь...» Я ўсміхнулася: «Дождж — гэта добра. Кажуць, калі на сустрэчу і на развітанне — дождж, — жаданы госцьі» А Яраслаўль, залатагаловы, як і Ніжні Ноўгарад, вядома, чакаў беларусаў. Чакаў Дух Максіма Багдановіча. Ён ведаў, не мог не ведаць —Вечнасць ведае ўсё! — што ў цэнтры Яраслаўля, на вуліцы Чайкоўскага, 21, памаладзеў, наліўся мускуламі здаровага бярвення няцесны драўляны дом — Дом-музей Максіма Багдановіча. Дом, у якім калісь жыла сям'я Багдановічаў. Жыў і любіў працаваць, закрыўшыся ў сваім пакоі, Максім.

У Ніжнім Ноўгарадзе, хоць і сонечна было, але.... Але ні на адным з чатырох дамоў, дзе жылі Багдановічы, адпавед-

**УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»**

**Сергей Астраўцоў нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Жыве і працуе ў Гародні. Як празаік у «ЛіМе» друкуецца ўпершыню.**



*Сяргей Астраўцоў*

# НЯМЕЦКІ ДОМ

*апавяданне*

ПЕРШ як стаць пісьменнікам, трэ прайсці пакутным шляхам, папакутаваць. Гэта яшчэ сцвердзіў, калі не памыляюся, сам Дастаеўскі. Так, аднаго жадання тут замала. Відавочная ісціна. Але я вось яшчэ аб чым падумаў. Каб у тваёй душы мог нарадзіцца літаратар, табе патрэбны дом. Не столькі маю на ўвазе сям'ю з яе ўнутраным жыццём, прыязнай атмасферай, але кажу літаральна. Так, менавіта дом. Смярдзючыя прусакоўні — інтэрнацкія начлежкі, блочныя клеткі хрушчовак або шматкватэрных гмахаў — нішчаць у нас мастацкія пачаткі. Санвузел, цесная куханька, пара пакойчыкаў-спальняў, тры акны ўнікуды. Гэта не дом.

Пчолы, тыя пры агульным доме, аднастайных каморках пляйстраў, маюць, аднак, дачыненне да цудоўнага — свету кветак і ў, здавалася б мёртвыя, шасцікутнічкі з воску зносяць нектар — як вядома, боскі напой. А што мы цягнем у свае закануркі? Туалетную паперу, гарэлку, мыла. Талонныя набыткі.

Краны сіпяць, краны гудуць, цечна сплываюць, цурчыць вада ў старым унітазе. За дзвярыма лаюцца ажно занадта па-расейску. За сценкай схапіліся заграбкі, з-за другой раве радыё, зверху... не хачу нават і казаць. Нізкая столь, тонкія сцены, цясноцце лічаных квадратных метраў. Карацей, як гэта ў песеньцы спяваецца:

Mój dom murem podzielony.
Po liewei stronie łazienka.
Po prawei stronie kuchenka.
Moje ciało murem podziełono... і г. д

Вар'ятня, а не дом.

На гэтым заканчваю свой сціплы ўступ.

Аброслы плюшчам дом. Хвалі лісця. Шэры дом, шэры дах. Мне, прынамсі, зараз так пачынае здавацца зачасам. Але ў памяці між тым засталася чырвоная яшчэ, старая дахоўка, вокны на падстрэшшы з лесвічкамі акенцаў. Старая камяніца.

Плюшч я датуль бачыў толькі ў кіно. Мы стаялі разгубленыя і здарожаныя. Нас запрасілі ў дом. Спачатку нам дастаўся адзін пакой. Як тамака мы размясціліся, не памятаю зусім, затое помню аб іншым. Вялікі дом, у якім нямала таямнічых і проста цікавых куткоў. Драўляная паўдужная лесвіца на другі паверх. Акенца, акно, прычым з каляровымі шыбамі, штукаванымі са шкельцаў. Прымітыўны вітраж. Пляцоўка з парэнчамі. Вялікі пакой лазніцы. Нябачаны дагэтуль тытан для сугрэву вады, кафля, прыгожая фаянсавая ўмывальня, вакно. Ці бачылі вы калі вялікую лазніцу з вялікім акном у сад? Абапрэшся на падваконне і ўдыхаеш водар садавіны. Першымі раслі сліва і валоскі гарэх.



# ТАЛЕНТ—ВОРАГ БАНАЛЬНАСЦІ

## Лісток календара за 10 лістапада

А сёння толькі восьмае... Дык што там, на календары, праз два лісткі? Радок чырвоным — «Дзень савецкай міліцыі»; радок чорным — «Сусветны дзень моладзі». Ніжэй — пара радкоў дробным шрыфтам: «70 гадоў з дня нараджэння В. У. Роўды, беларускага савецкага харавога дырыжора, народнага артыста БССР...»

«Всё врут календари»... І сапраўды: маэстра Роўда за вялікую працу — запіс у фонд радыё «Анталогіі беларускай народнай песні» са збору Рыгора Шырмы — адзначаны Дзяржаўнай прэміяй рэспублікі; хор Дзяржтэлерадыё, якім ён кіруе ўжо чацвёрты дзесятак гадоў, атрымаў званне акадэмічнага, а сам Віктар Уладзіміравіч — званне народнага артыста СССР. І ўсё гэта — падзеі адносна нядаўнія.

У календары не пішуць, але хто ж таго не ведае, што складаная і загадкавая творчая постаць В. Роўды — гэта не старонка нават, гэта цэлая кніга ў шматтомнай гісторыі беларускай культуры. І «кнігу» тую спазнаюць ды шануюць не толькі на Беларусі. Індывідуальнасць Роўды — музыканта і чалавека — ніколі не ўпісвалася дый не ўпісваецца ў банальныя шэрагі «дзеячаў культуры і мастацтва». Нарадзіўся ў Смаргоні. Адукацыю атрымаў у Літоўскай кансерваторыі. Выкладаў у Маскве. Працаваў з хорам знакамітага А. Свешнікава. Вярнуўся на Беларусь...

У самім аблічы маэстра — вечная загадка. Загадка не банальнай, таленавітай асобы. Загадка чалавечага духу, парodненага з Музыкай — вялікім светам, які ўбірае ў сябе і зямную крэўную песню народа, і малітву яго, спевамі ўзнесеную да Бога. Таму і няпроста знайсці дакладныя і тонкія штрыхі да партрэта юбіляра, каб абрысаваць яго невытлумачальную, выбуховую, магутную натуру.

Можа, гэта ўдалося творцу, які даўно і стала супрацоўнічае з маэстра,— аўтару шматлікіх харавых твораў і вядомых музычных палотнаў, «сатканых» не толькі з галасоў аркестра, але і з цёплых харавых фарбаў (сімфоніі №№ 5 ды 6 — «Памяць зямлі», «Полацкія пісьмёны»)? Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі кампазітар А. Мдзівані віншуе свайго сябра па творчасці.

С. Б.

# МАЁ КАРОТКАЕ ЭСЭ ДА ЮБІЛЕЮ

Роўда — Віктар Уладзіміравіч — вялікі з таго, што ва ўсе часы свайго Жыцця здолеў захаваць у нас — усіх спагадных — веру ў Усявышняга і ў праўдзівае мастацтва.

Калі пяяў — «Усяночную» на верш Янкі Купалы.

Калі пяяў — «Галашэнне» на верш Янкі Купалы.

Калі пяяў — «На Купалле» на верш Янкі Купалы.

Калі пяяў — «Месяц» на верш Сяргея Ясеніна.

Калі пяяў — «Шел Господь пытать людей в любви» на верш Сяргея Ясеніна.

Калі пяяў — «Книга есть река...» у Шостай сімфоніі.

Калі пяяў — фінал сімфоніі «Памяць зямлі».

Калі пяяў — «Міласэрны» на верш Фёдара Салагуба.

Калі пяе...

Віктар! Многая лета!!!
Многая лета!!!
Многая лета!!!

Андрэй МДЗІВАНІ.

# «ШЫРЫЦЬ ІДЭЮ ТЭАТРА...»

## Штрыхі да творчага партрэта Валянціна ЕРМАЛОВІЧА

Як зараз бачу перад сабой цудоўны, сонечны, веснавы дзень. У такія дні душа напаўнялася пачуццём свабоды, чысціні і радасці. У такія дні хацелася бегчы ў прасторы лугоў, каб жыць сярод кветак, слухаць гудзенне пчол і шчэбет ластавак. (Цяпер я разумею, які жыватворны ўплыў аказвала чыстая прырода на рост і развіццё маладой душы. Прырода ў тыя шчаслівыя часы была тонкім і разумным выхавацелем узвышаных духоўных якасцей — лірызму, рамантызму, дабрыні і прыхільнасці да ўсяго прыгожага). І вось у такі дзень, калі цвілі сады і паветра поўнілася тонкім водарам шыпшыны і акацыі, па шляху Чэрыкаў — Краснаполле, які пралягаў праз наш хутар, рухаўся гурт незнаёмых людзей. Вось яны падыходзяць да нашага саду, запыленыя, змораныя, спацелыя, але вясёлыя, бадзёрыя, маладыя і прыгожыя. Яны садзяцца ў цені вішнёвых дрэў і просяць напіцца. Мая маці выносіць ім квас і малако. Я пільна ўглядаюся ў іхнія твары. Яны настолькі не падобныя на знаёмыя навакольныя, што здаюцца мне (у маім рамантычным уяўленні) нібы з іншай планеты.

«Адкуль жа вы, добрыя людцы, куды ж вы ідзяце і хто ж вы такія будзеце?» — пытаецца ў іх маці. І самы старэйшы з іх, з глыбокім позіркам сініх вачэй, адказаў: «Артысты мы, вандроўнікі, ідзем аж с самога Менску. Пабывалі ў Чэрыкаве, Прапойску, а зараз ідзем да вас, будзем ставіць спектаклі». Гэта быў сам Галубок.

Маё дзіцячае ўяўленне назаўсёды захавала ў памяці гэтую незвычайную сустрэчу з вандроўнай прафесійнай трупай Уладзіслава Галубка, і я доўга хавала маленькую белую хустачку з тонкага батысту, якую згубілі ў нашым садзе артысты Галубка — вандроўнікі...

Яны кіраваліся ў Краснаполле, — у адзін з самых старэйшых на Беларусі тэатраў, што заснавалі яшчэ ў 1918 годзе браты Андрэй і Васіль Шашалевічы. Ці не з тых часоў спалучэнне «вандроўныя артысты» абуджае ўва мне самыя рамантычныя пачуцці...

Тэатр, мабыць, і трымаецца на гэткіх вандроўніках, на іхняй апантанасці ідэяй тэатра ды шчырай любові да тэатра народнага. Краснапольскі тэатр доўга чакаў «свайго вандроўніка», нягледзячы на здольнасці і творчую няўрымслівасць шмат каго з ягоных руплівцаў. А мо вандроўнік шукае свой тэатр?

Як бы там ні было, гадоў 25 таму назад выкладчык Магілёўскага культасветвучылішча В. Ермаловіч упершыню завітаў у тэатральны калектыў Краснаполля. Многае яго тут уразіла сваёй самабытнасцю, надзвычайнасцю. Запомніліся няўрымслівыя энтузіясты-акцёры, іх любоў да сцэны...

Трэба адзначыць, што В. Ермаловіч належыць да той слаўнай катэгорыі работнікаў нацыянальнай культуры, якія нібы прысягаюць служыць сваёй улюбёнай справе ўсё жыццё. Тэатр — гэта яго жыццёвы шлях, з якога ён ужо ніколі не зможа сысці, і будзе служыць яму, пакуль хопіць сіл. І шлях гэты прывёў яго ў Краснаполле. Многія пытаюць у яго, за якую правіннасць даводзіцца яму гойсаць кожны тыдзень з Магілёва да Краснаполля (220 кіламетраў) і назад, трываць інтэрнацкую няўтульнасць, сталавацца як давядзецца, ды і гады ўжо немаладыя. Неадноічы, прыехаўшы позна ўначы з канцэрта або з пастаноўкі з далёкай вёскі жорсткага радыяцыйнага кантролю, гэты апантаны чалавек клаўся спаць галодны, у няўтульным калгасным інтэрнаце...

Ермаловіч — акцёр-вандроўнік. Ён сам сябе называе «транзітная душа». Шматлікія вандроўкі па вёсках Магілёўшчыны ён пачаў рабіць яшчэ ў маладыя гады — гэта былі так званыя літаратурныя чытанні разам з паэтам А. Пысіным і студэнтамі культасветвучылішча. З таго часу Валянцін Іванавіч чытае са сцэны гумарыстычныя творы беларускіх паэтаў, і Саюз пісьменнікаў Беларусі атэставаў яго як выдатнага майстра мастацкага чытання. І ў якіх толькі вёсачках не былі гэты апантаны вандроўнік!

Варта нагадаць сёе-тое з біяграфіі В. Ермаловіча.

Яшчэ ў пачатковых класах ён любіў чытаць вершы беларускіх паэтаў. У гэтым яму дапамагаў настаўнік Якуб Балашэвіч. Чытанне малога Валіка вельмі падабалася слухачам. Яго хвалілі. Гэта быў яго першы крок у мастацкую самадзейнасць, у якой актыўна ўдзельнічалі яго старэйшыя браты Мікола і Лявон. У 30-я гады Мікола завёў Валіка ў тэатр імя Янкі Купалы на спектакль па п'есе К. Крапівы «Партызаны». Пастаноўка ўразіла малога. І з таго часу ён пачаў марыць аб паступленні ў тэатральны інстытут.

Пакаленню 20-х гадоў выпаў нялёгкі лёс: нескончаная вучоба ў школе, юнацтва, абпаленае вайной, усе яе нягоды і выпрабаванні. Вырас Валянцін, як сказаў паэт, пад гарматнымі ствaламі. Гітлераўцы ганялі яго з валакушай на партызанскія засады, каб першым падрваўся на той міне, якую заклаў яго брат-партызан. Немцы хапалі моладзь для адпраўкі ў Германію. Не абмінуў лёс і Валянціна. Але ён уцякае ад вартавога-паліцая, паказаўшы яму дакумент старэйшага брата. Калі ж брат пайшоў у партызаны, Валянцін стаў заложнікам у немцаў. Пасля вызвалення Валянцін пайшоў на фронт. Раненне... Затым яшчэ адно — цяжкае, у выніку якога родныя атрымалі пахаванку. Але — выжыў! І зноў пайшоў даганяць сваю часць. Зноў — раненне! Шпіталь і канчатковая дэмабілізацыя.

«У першым пасляваенным верасні зноў пачаліся заняткі ў Дзяржынскай сярэдняй школе. На адной з парт у 10-м класе заняў месца прыгожы каржакаваты хлопец у вайсковым адзенні з ордэнам Айчыннай вайны і з медалём «За перамогу над Германіяй», — так пісаў паэт А. Пысін пра Ермаловіча-франтавіка ў «ЛіМе».

Малады франтавік, відаць, верыў у сябе, калі пасля заканчэння вучобы ў школе паступае ў Мінскі тэатральны інстытут.

«У сваім кароткім жыцці Валянцін прадэманстраваў такое «пераўвасабленне», якога, бадай, не было яшчэ ў ніводнага вялікага артыста: з мёртвых стаў жывым, а, галоўнае, у мастацтва імкнуўся малады чалавек, які прайшоў надзвычайную суровую школу жыцця» (А. Пысін).

У Магілёўскае культасветвучылішча Валянцін Ермаловіч прыйшоў з шасцігадовым акцёрскім вопытам і з вышэйшай тэатральнай адукацыяй. Трэба дзівіцца таму, адкуль чэрпаў энергію гэты нястомны педагог, артыст, рэжысёр, дзе браў сілы, каб удзельнічаць у тэатральнай студыі, ездзіць па вёсках і райцэнтрах, кіруючы адначасова аматарскім тэатрам на заводзе штучнага валакна ў Магілёве. Дарэчы заўважыць, што гэты тэатр набыў званне народнага дзякуючы вопытнаму, прафесійнаму кіраўніцтву В. Ермаловіча.

Прапаганда беларускага мастацтва, якую няспынна праводзіў Валянцін Іванавіч, цесна сплятаецца з яго вандроўным жыццём. Працуючы выкладчыкам рэжысуры ў Магілёўскім культасветвучылішчы, В. Ермаловіч не спыняе свае шматлікія паездкі па Магілёўшчыне і за яе межы. Не прамінае ён ніводнай юбілейнай даты беларускіх пісьменнікаў, на юбілейных вечарынах разам з А Пысіным і студэнтамі вучылішча чытае творы беларускіх паэтаў ды даклады аб іх творчасці.

З 1976 года В. Ермаловіч пачаў кіраваць Краснапольскім народным тэатрам. У свой час пісьменнік М. Гарэцкі пісаў: «Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым бы ён мог быць, гукніце яго са сцэны да лепшага жыцця».

Уся дзейнасць народнага тэатра пад кіраўніцтвам В. Ермаловіча прысвечана свайму народу, і невыпадкова на сцэне тэатра з'явіліся п'есы Я. Купалы, К. Крапівы, І. Мележа, А. Макаёнка, І. Шамякіна, А. Дударава... У рэпертуары ёсць пастаноўкі і кампазіцыі, створаныя і самім рэжысёрам. У 1990 годзе гледачы ўбачылі пастаноўку па творах Андрэя Шашалевіча (Мрыя) пад назвай «Шчасце жыць».

...Апошнімі гадамі працаваць з тэатрам стала цяжка. Калектыў складаецца пераважна з маладых людзей, якія ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем пакідаюць раён, а знайсці замену не так проста...

Партрэт заслужанага работніка культуры быў бы няпоўны, калі б мы не ўлічылі яшчэ адну вельмі важную рысу яго дзейнасці — страсную прапаганду роднае мовы. Вопытны рэжысёр разумее, што дыялог з народам можна весці толькі на яго роднай мове. Тэатр бываў у самых глыбінных вёсачках, што туліліся на самай ускраіне рэспублікі, і там у поўны голас гучала наша роднае слова.

І як пры гэтым не ўспомніць словы Якуба Коласа: «Трэба шырыць ідэю тэатра, несці яго ў самыя нізіны, а беларус, як мне здаецца, мае вялікую здольнасць да тэатра».

Яўгенія КАПЛУНОВА.

г. п. Краснаполле.

# ЧАС ВЫЗВАЛЯЦЦА З КЛЕТАК

## «ПРЫВІДЫ» («Машэка») М. Арахоўскага на тэлеэкране

Здарылася так, што рэспубліканскае тэлебачанне зрабіла своеасаблівы серыял па п'есе М. Арахоўскага. Яго «Машэка» зрабіў крок на хатні экран амаль што год назад. Спачатку з'явілася тэлеперадача. У рубрыцы «Тэатр і час» адбылося знаёмства з аўтарам — Мікалаем Арахоўскім. Да той размовы быў прыстасаваны ўрывак са спектакля Брэсцкага абласнога тэатра: пачаўся адлік сцэнічнага быцця сучаснага «Машэкі». Так прайшла, як цяпер кажуць, прэзентацыя новага драматурга і яго твора. Пазней тэлебачанне прапанавала «Машэку» па-станоўцы вучэбнага тэатра БДТМІ. Аднак тэлеверсія вызначыла спакуслівую метамарфозу: «копія», на мой погляд, атрымалася больш цікавай за «арыгінал». У тэлеварыянце быў дадатковы эпізод: творчая група разважала над п'есай М. Арахоўскага, удакладняла асаблівасці пастаноўчай работы на вучэбных падмостках. Менавіта на гэты эпізод прыпаў кульмінацыйны пік тэлефільма-спектакля; ён быццам з'яднаў творчы намер і мастацкі вынік, абавязак і кампраміс, ілюзіі і рэчаіснасць... Адбылося іншае відовішча — спектакль пра спектакль, на жаль, пра сумны спектакль.

Такое «самаўпраўства» тэлебачання скончылася лагічным вынікам: у студыі нарадзіўся самастойны тэлетвор «Прывіды» па п'есе М. Арахоўскага «Машэка».

Аўтар тэлеспектакля рэжысёр В. Анісенка звярнуўся да гэтай п'есы другі раз. Ім ужо быў створаны спектакль на брэсцкай сцэне. У тэлевізійнай версіі В. Анісенка фарміруе новы склад выканаўцаў і карэкціруе сваю рэжысёрскую партытуру: змяняецца назва спектакля, «дапісваецца» крымінальная экспазіцыя, стылістыка выкладання падпарадкоўваецца тэлевізійнай мове.

Па сваёй форме п'еса М. Арахоўскага адпавядае камернай інтанацыі тэлеэкрана. Трыо персанажаў — Халіпскі, Ясь і Клімовіч — зададзена драматургам у вострай тыпажнай манеры: гаспадар-баярын, халоп і бунтар-Машэка. Гаспадар Халіпскі — хітры, умее прадугледзець хады наперад. Ясь (яго шафёр) —вучыцца слугаваць. Гэтаму тандэму адкрыта працістаіць і ў выніку раскольвае яго бунтар Клімовіч.

У падзямеллі за жалезнымі дзвярыма разгортваецца змаганне па прынцыпе: трэці — лішні. То адзін, то другі спрабуе навязаць правілы гульні ў адпаведнасці з уласнай філасофіяй. Спачатку атакуюць Клімовіча, які недарэчна сапсаваў пазіцыю гаспадара Халіпскага, трапіўшы пад колы яго «Волгі». У выніку атак зламаны сам гаспадар.



А. Ткачонак (Клімовіч). Фота Г. МАСКАЛЕВАЙ.

У тэлеспектаклі надзвычайна згушчана прастора. Дачны падвал, дзе раскручваецца калізія, загрувашчаны каробкамі, скрынкамі. Сюды рэжысёр «падкідае» пару кантэйнераў з-пад гароднiны, каб лагічна ўвесці ў дзеянне клетку — кампазіцыйны і вобразны цэнтр п'есы. Тым самым пад экстраардынарную сітуацыю надзіва старанна падводзіцца «рэальны базіс». Адначасова В. Анісенка падкрэслівае ірэальнасць таго, што адбываецца. Твары ўсіх персанажаў падаюцца праз краты — такі універсальны спосаб вядзення дыялога. А ў апагеі славесных схватак пастаноўшчык карыстаецца своеасаблівай тэлеграфікай, калі замест чалавечага твару на экране застаецца толькі адбітак.

Дзеянне тэлеспектакля, такім чынам, балансуе паміж натуральнасцю і фантасмагорыяй. Трэба сказаць, што падобны прынцып павінен быў з'яднаць у жанравым адзінстве ўсе эпізоды пастаноўкі. Аднак рэжысёр і выканаўцы (А. Ткачонак, А. Курловіч, В. Радзько) «чытаюць» п'есу, як псіхалагічную драму. На мой погляд, псіхалагічны рэгістр у творы М. Арахоўскага пазбаўлены неабходнай шчыльнасці. Таму пошук псіхалагічных матывіровак у тэлеспектаклі «Прывіды» ператвараецца ў разумовую простаяінейнасць прычын і выніку, супраўаджаецца непатрэбнымі падрабязнасцямі (напрыклад, момант, калі Клімовіча запіхваюць у самаробную клетку). У такіх выпадках тэлекамера робіцца бязлітаснай.



Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля В. Анісенка з драматургам М. Арахоўскім.

Таксама цяжка ўявіць, што Клімовіч (А. Ткачонак) падсвядома выдае сябе за Машэку. Яго вочы на буйных планах сведчаць аб мэтанакіраваным выбары такога іміджу.

Мо пастаноўшчыкам тэлеспектакля лепш было разглядзець у п'есе «Машэка» трагікамедыю, як прапануе драматург? Ці паспрабаваць завастрыць яе да трагіфарсу? Безумоўна, пры такім падыходзе таксама нялёгка знайсці адпаведную тоеснасць, бо супярэчнасць зместу і формы існуе ў самой п'есе. І ўсё ж апорныя пункты для фантазіі рэжысёра ёсць...

Па-першае, настаўнік Клімовіч уяўляе сябе Машэкам і ў адпаведнасці пераймяноўвае Халіпскага (баярын), Яся (халоп), Івана Капітонавіча (князь). Тут намечана асноўнае асацыятыўнае перамяшчэнне і адначасова — абагульненне, тыпізацыя... маскі.

Па-другое, Клімовіч—Машэка зацiснуты ў клетцы напраўду. І калі гэты «пасаж» перавесці ў эксцэнтрычную танальнасць, то атрымліваецца... цыркавы трук!

Па-трэцяе, у п'есе ёсць моманты і сцэны (так званыя хрэсьбіны, тэатралізаваная гульня Халіпскага), якія інтэрпрэтуюцца на трагікамічны лад...

Прызнацца, калі ўбачыла назву новай пастаноўкі БТ, то спадзявалася, што гэта «перайменаванне» ёсць вынік новай канцэпцыі рэжысёра В. Анісенкі. Пераход ад «Машэкі» да «Прывідаў» мог змяніць суадносіны дзеючых асоб, ураўняць іх зыходныя пазіцыі і парушыць звыклы прыярытэт чыйгосьці лідэрства (усё адно — станоўчага ці адмоўнага). На гэтай падставе магчыма было праграмаваць другую існасць, вызваляючы персанажаў ад просталінейнай скутасці. Бо, па сутнасці, усе яны ў палоне, а клеткі адрозніваюцца толькі камфартабельнасцю. Можа, таму ўзаемадачыненні ўсіх трох герояў сілкуюцца пераважна нізкімі пачуццямі: жорсткасцю, непрымірымасцю, агрэсіўнасцю?..

...Па-мойму, надышоў час вызваляцца з клетак — станавіцца вольнымі ад нянавісці.

**Н. АГАФОНАВА.**

# КРЫХУ ПРА ВЕЧНАЕ

## Вечар сімфанічных прэм'ер

«Хлеба и зрелищ!» — такі кідкі загаловак папярэднічаў анонсу філарманічных канцэртаў у тыднёвіку «7 дней». Але тыя, хто прагне відовішчаў, могуць не турбавацца. Тое, што сёння адбываецца ў нашым галоўным храме музыкі, — гэта высокае мастацтва, якое прымушае задумацца пра вечныя філасофскія праблемы жыцця і смерці, пра духоўныя каштоўнасці, пра складаны і супярэчлівы свет вакол нас. І вось што з гордасцю зазначу: сярод праграм з шэдэўраў музыкі XX стагоддзя (маю на ўвазе трагічную эпапею Д. Шастаковіча, якая адкрывала сезон, канцэрт з твораў С. Пракоф'ева) вечар беларускіх прэм'ер выглядаў зусім годна. Больш за тое: думаю, не памылюся, калі дадам, што гэта была **падзея** у нацыянальным музычным мастацтве апошняга часу.

Тры імя, тры творчыя індывідуальнасці... Як жа яны не падобныя адна да адной!

**Уладзімір Дамарацкі** — мастак інтэлектуальнага складу, вострасучаснага мыслення. Цікава эксперыменце ў галіне сінтэзу акадэмічных жанраў і джазавай або эстраднай музыкі. Музычная драматургія яго буйных твораў (Канцэрт для аркестра, Канцэрт для валторны, камерных ансамблі, Санаты для фартэпіяна) будуецца на рэзкіх вобразных, а часам і стылявых кантрастах. Тое ж характэрна і для яго новай Другой сімфоніі, дзе драматычная напружанасць суседнічае з гратэскам, а лірыка (чароўная III частка на аснове старадаўняга балгарскага распеву) набывае рысы філасофскага роздуму. Мінулае і сучаснасць, непарыўная сувязь часоў як падмурак духоўнай культуры — так можна тлумачыць канцэпцыю новага сімфанічнага твора, які адкрыў вечар прэм'ер.

**Галіна Гарэлава** — кампазітар-паэт, рамантык, лірык. Пра самабытнасць талента сведчаць яе лепшыя творы: вакальныя цыклы на вершы М. Багдановіча, Э. Верхарна, А. Ахматавай, кантата «У год сусветнага пажару» на тэксты паэтаў XX стагоддзя. У новай кантаце «1000 гадоў надзеі» на вершы кітайскіх, японскага, мексіканскага, карэйскага і егіпецкага паэтаў апошняга тысячагоддзя кампазітар звяртаецца да адвечнай тэмы кахання, апавядае пра галоўнае, на думку аўтара, прызначэнне жанчыны. Вытанчанасць пачуццяў, паглыбленая псіхалагічнасць і эмацыянальная выразнасць музыкі былі ўдала перададзены В. Цішынай, спявачкай вялікага драматычнага таленту. Дарэчы, менавіта ёй і дырыжору В. Лявонаву, пад кіраўніцтвам якога раней была запісана кантата на радыё, Г. Гарэлава прысвяціла гэты твор. Твор, які, мяркуючы па рэакцыі публікі, кранул слухачоў за жывое.

**Андрэй Мдзівані**—з «прэм'ераў» самы масціты. Нядаўна мы віншавалі яго з Дзяржаўнай прэміяй Беларусі, якую ён атрымаў за Пятую («Голас зямлі») і Шостую («Полацкія пісьмёны») сімфоніі. Кампазітар-эпік, ён мае схільнасць да архаікі. Творчае мысленне А. Мдзівані адметнае тэатральнасцю, якая адбіваецца на яго шматлікіх сімфанічных і народна - аркестравых творах з іх вынаходлівасцю, вобразнай канкрэтнасцю, яркасцю каларыту. Усе гэтыя якасці выявіліся і ў сюіце з новага балета «Анафема». Балет апавядае пра лёс ці не самай прывабнай гераіні беларускай гісторыі — Рагнеды, якую А. Мдзівані трактуе як сімвал вечнай прыгажосці і высакароднасці. Музыка сюіты так цесна звязана з пластыкай, жэстам, што нараджае ва ўяўленні зроквыя вобразы. Найбольш уразіла сімфанічная карціна «Разбурэнне Полацка». Узнікла жаданне хутчэй пазнаёміцца са сцэнічным увасабленнем балета.

У прэм'ерным паказе сімфанічнай музыкі адказная і, бадай, вызначальная роля належыць дырыжору. Гісторыя ведае нямала выпадкаў, калі добрыя творы былі загублены выканаўцамі. Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста рэспублікі М. Казінца з гонарам выканаў свой абавязак. Хацця і не абышлося без накладак, галоўнае — роздум аўтараў пра вечныя каштоўнасці чалавечага жыцця, прадстаўлены ў такіх разнастайна-індывідуальных формах, — было дачесена да слухача дакладна. Музыка хвалявала. Пра яе горача спрачаліся ў кулуарах (ох, ужо гэтае наша вечнае імкненне расставіць усё па ранжыры!). Панавала атмасфера свята. Вядома ж, прэм'ера!

Але як горка, што гэтае свята адбывалася, мякка кажучы, у напаўпустой зале. Я разумею: нацыянальны нігілізм, амаль поўная адсутнасць у грамадстве культурнага пласта, раз'яднанасць творчай інтэлігенцыі... Дык няўжо і гэта — вечнае?

**Радаслава АЛАДАВА.**

**НАШ КАЛЯНДАР**

85 гадоў народнай артыстцы БССР лаўрэату Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Аляксандры Нікалаевай. У 1934—60 гг. яна — вядучая салістка беларускага балета. Яркая, высокатэхнічная, артыстычная балерына, яна ўвайшла ў гісторыю нашай культуры не толькі як таленавіты інтэрпрэтатар класічных партый у спектаклях «Лебядзіное возера», «Дон Кіхот», «Бахчысарайскі фантан» і інш., а і як першая выканаўца партый у беларускіх балетах: «Салавей» М. Крошнера (Зоська), «Князь-возера» В. Залатарова (Надзейка). Добра ведаюць Аляксандру Васільеўну Нікалаеву і як педагога: колькі гадоў таму яна выкладала ў Беларускім харэаграфічным вучылішчы, апошнім жа часам творчыя кантакты з вопытным майстрам сцэны наладзіла Мінская народная студыя класічнага танца. Летась мы друкавалі ўспаміны артысткі пра пастаноўку балета «Салавей», напісаныя ёю спецыяльна для «ЛіМа».

●

70 гадоў заслужанаму артысту рэспублікі Валерыю Прышчапёнку. Працаваў у Ансамблі песні і танца БВА. Быў вядомы як саліст Дзяржтэлерадыё БССР, чый рэпертуар складаўся пераважна з песень, рамансаў, оперных партый беларускіх кампазітараў, народных беларускіх песень.

●

80 гадоў Аляксандру Апанасенку, заслужанаму дзеячу мастацтваў рэспублікі. У 1959—71 гг. быў мастацкім кіраўніком і галоўным балетмайстрам Дзяржаўнага ансамбля танца БССР, сярод яго вядомых пастановак — «Беларуская партызанская», «Лянок», «Мяцеліца», «Беларуская сюіта».

●

120 гадоў з дня нараджэння беларускага харавога дырыжора, кампазітара, фалькларыста Уладзіміра Тэраўскага. Стваральнік аднаго з першых беларускіх харавых калектываў у Мінску (1914 г.), рэарганізаванага ў 1917 г. у Беларускі народны хор. Узначальваў музычную частку Першага беларускага таварыства драмы і камедыі; як хормайстар БДТ-1 (тэатр імя Янкі Купалы) стварыў музыку да спектакляў, скарыстоўваючы беларускі песенны ды інструментальны фальклор.

# Свята Максіма

(Пачатак на стар. 8—9).

схіме Трыфану, вырас Толгскі манастыр... Сёння, на жаль, сцены яго пакуль яшчэ нагадваюць разбураныя сцены Брэсцкай крэпасці: так з 1956 года час занядбання святой мясціны скрышыў іх. Але ёсць надзея: 130 сясцёр-інакіняў жывуць ужо тут. Намесніца ігуменні Варвары Любоў — з Негнявічаў, з Наваградчыны, будаўнік па мірской адукацыі. Адзін з Храмаў Толгскае абіцелі ажыў ужо. Рэстаўруюцца Уведзенскі Храм і Нікольская надбрамная цэркаў... Яраслаўль жыве. Духоўны горад-запаведнік ажывае, адраджаецца. Святкуе Максімаў 100-гадовы юбілей.

На маім службовым... не, праўдзівей сказаць, на пісьмовым маім стале нараджаўся маршрут юбілейных святкаванняў. Але ці думала, ці гадала, што гэта стане не толькі штуршком адраджэння месцаў, звязаных з лёсам Паэта: домік у Ракуцёўшчыне і дом у Яраслаўлі — рэальнасць. Надзея на рэстаўрацыю, на адбудову, на адраджэнне Вяззеўскага дома — ляснога аб'ездчыка Франца Секяржыцкага, за якім замужам была родная сястра маці паэта Сцепаніда Апанасаўна. У яе вясной — летам 1895 года і гасцявалі Вадзім, Лёва і Максім са сваёй Мамай. Веру, што і ніжагародскі Дом-музей Максіма будзе рады беларусам. Дом па Грузінскай 32-а, і ўсе тры дамы па вуліцы Караленкі. Пра тое, што з нагоды юбілею — калі не ўсё, але многае мы адбудуем, адновім, адрэстаўруем, — ведала. Зведала за гады мусовага культурнага чыноўніцтва: «з нагоды» найперш і робім! На гэта якраз і разлічвала. І не памылілася: Дзякуй Богу і юбілейнаму аргкамітэту на чале з рупліўцам-міністрам Яўгенам Вайтовічам, пры ўдзеле пісьменнікаў Ніла Гілевіча, Максіма Танка, Івана Шамякіна, Алега Лойкі, Івана Чыгрынава, Васіля Зуёнка, Віктара Каваленкі, віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь акадэміка Івана Навуменкі, міністраў Пятра Краўчанкі, Анатоля Бутэвіча, намесніцы міністра Людмілы Сухнат... Каляндарны маршрут святкаванняў падтрымалі, зацвердзілі. А зацверджанаму — дарога ў жыццё.

Але не гэта галоўнае. Зразумела я тое на Волзе. І, можа, найбольш — у Яраслаўлі. У мільённым горадзе высокай духоўнасці. Адам Багдановіч ведаў, дзе жыць. Без цудадзейных вялікіх рускіх гарадоў Ніжняга Ноўгарада і Яраслаўля, горада, які быў заснаваны сынам кіеўскага князя Уладзіміра і полацкай княгіні Рагнеды Яраславам Мудрым, без гэтых двух цудаў на вялікай рускай рацэ Волзе ці мелі б мы — Беларусь, славянства — такога волата Духу, якім стаў Максім Багдановіч?! З абсягаў і вышынь сусветнае літаратурнае культуры нёс ён свайму пакутнаму народу Праметэеў Агонь Адраджэння. Ён, як пчала, у меданосных травах культуры Паволжа, Расіі, Украіны... свету — назапашваў і перапраўляў на радзіму праз паэтычны радок, праз пераклады, апавяданні, артыкулы, рэцэнзіі залацісты мёд высокае Духоўнасці. Геній Максіма Багдановіча без малінавых званоў Яраслаўля, без мудрасці, якую спасцігаў у Ніжагародскай і Яраслаўскай мужчынскай гімназіях не адбыўся б! І яраслаўцы разам з намі па праву дзялілі радасць выспельвання Генія і на іхняй зямлі. У знакамітым Яраслаўскім драматычным тэатры імя Фёдара Волкава (дарэчы, і тут не без землякоў: дырэктуе тут Людміла Яраславаўна Охніч, бабуля якой — з Радзівілаў) Максімаў Дух з'яднаў і яраслаўцаў-русічаў, і пасланцоў Беларусі, і яраслаўцаў-беларусаў. Уладзімір Гілеп і Вольга Іпатава — ад гасцей, Юрый Кузняцоў — ад гаспадароў. І слова — Паэзіі Максіма Багдановіча. Артысты Зінаіда Бандарэнка, Ала Доўгая, Алена Акулёнак, Валерый Ласоўскі, Аляксандр Якаўлеў, спевакі Валянціна Крываносава, Аляксандр Рудкоўскі, гурты «Свята» і цымбалістак Белдзяржкансерваторыі... Канцэрты ў горадзе і ў прыгарадных рускіх вёсках. Рэжысёр літаратурна-музычных прадстаўленняў Ніна Осіпава, музычны кіраўнік канцэрта Эдуард Фербераў, прафесар Белдзяржкансерваторыі Яўген Гладкоў, музычны кіраўнік «Свята» Васіль Купрыяненка і салісты гэтага гурта Святлана і Уладзімір Салодкія, Міхась Пацук, абодва гарманічна зладжаныя гурты разумелі адказнасць выступленняў і дарылі людзям і радасць душы, і сваё майстэрства, і любоў да Максімавага Слова.



Надмагільны помнік бацьку паэта і Аляксандры Багдановіч-Мякоце. Магілу дапамаглі адшукаць родныя М. Багдановіча В. М. Кузняцоў і К. Ф. Кузняцова.
Фота А. КАЛЯДЫ.

Вёска Ананьева. 900 чалавек тут жыве. Зала клуба на 200 месцаў поўная. Узрост — ад годзіка да тых, каму за 70. Кацярынка зусім маленькая. З пустышкай. Апладзіруе. Радуецца. Вольна ёй у зале. Спрабуе ўзняцца і на сцэну. Прышпільваю ёй юбілейны Максімаў значок.

— Вы прыедзеце да нас яшчэ? — спяшаюцца не адпусціць артыстаў дзеці. (Першы за тры гады пасля ўводу клуба — з пастаянным дыскатэчным тлумам — чалавечы, нармальны, «жывы» канцэрт! — так нам сказалі сяляне).

І адказваю дзецям: «Запросіце — прыедзем!»

А яны — як гарох: «Мы ўжо запрашаем!..» І вочы іхнія, і ўсе іх шчырыя істоты — за-пра-ша-лі.

Радавала: у душах іхніх водсвет Максімавай Зоркі не згасне.

Яраслаўская зямля радавалася. Нарэшце распагодзілася.

**Ніна ЗАГОРСКАЯ.**

# «Стаць гаспадарамі на сваёй зямлі!»

(Пачатак на стар. 5).

члены беларускай дэлегацыі. Трэба сказаць, што беларусы прымалі ўдзел і ў папярэдніх з'ездах народаў, але актыўна там не выступалі. Цяпер жа становішча змянілася. Дакладна выразіў пачуцці, з якімі ішлі беларускія прадстаўнікі на кангрэс, Іван Луцкевіч (дарэчы, ён быў кіраўніком дэлегацыі) у газеце «Гоман» ад 21 ліпеня 1916 г.: «Народ, каторы сто гадоў маўчаў, губляе зусім свой голас, не ўмее гаварыць аб сабе і за сябе. Але бываюць такія здарэнні ў жыцці прыспаных народаў, каторыя прымушаюць іх падаць свой голас, вырываюць той голас з грудзей. У нас, у Беларусаў, гэта першы раз зрабіла вялікая расейская рэвалюцыя, тады вырваўся з грудзей народу крык: «Жыве Беларусь!» — і пачалася ўнутраная творчая работа над адбудаваннем нацыянальнай культуры, над агульным адраджэннем. А цяпер зноў вайна прымусіла наш народ заявіць аб сабе, і гэты раз выступіць перад усім светам».

На гэты раз беларусы выступілі вельмі актыўна, што адзначылі агенты царскай паліцыі. У данясенні кіраўніку Дэпартамента паліцыі МУС Расійскай імперыі яны пісалі, што беларусы, разам з прадстаўнікамі палякаў, літоўцаў і ўкраінцаў, выказалі рашучае жаданне пазбавіцца ад прыгнёту з боку расійскіх улад. Ад імя беларусаў на кангрэсе выступіў Іван Луцкевіч. Непасрэдны тэкст прамовы не захаваўся (ці пакуль не знойдзены), але, па ўсёй верагоднасці, прамоўца абапіраўся на тэкст «Мэмарандума прадстаўнікоў Беларусі», які захаваўся ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі СССР у г. Маскве (тэкст мемарандума быў змешчаны таксама ў газеце «Гоман» у нумарах 52 і 58 ад 11 і 15 жніўня 1916 г.).

Дакумент даволі вялікі — 4 машынапісныя аркушы. Тэкст безназоўны, але па стылі вельмі падобны да «Кароткай гісторыі Беларусі» Вацлава Ластоўскага. Ластоўскі таксама прымаў удзел у працы кангрэса, і таму ёсць усе падставы лічыць, што менавіта ён быў аўтарам памятнага запісу.

З-за вялікіх памераў няма магчымасці прывесці поўны тэкст мемарандума, таму абмяжуемся яго асноўнымі тэзісамі.

— Мы — народ беларускі! Мы існуем на тэрыторыі ад Брэст-Літоўска да Ржэва, ад Чарнігава да Рэжыцы і маем усе падставы дзеля таго, каб лічыцца асобным народам і існаваць побач з іншымі народамі...

— Мы — народ беларускі — нашчадкі крыўскіх плямёнаў, княства Полацкага і Вялікага княства Літоўскага. Мы выжылі як нацыя, нягледзячы на многавекавыя спробы з боку Польшчы і Расіі асіміляваць нас. Мы стварылі за 10 год да вайны літаратуру, адкрылі ў сябе палітычныя і літаратурныя таленты, стварылі нацыянальныя, культурныя і эканамічна-сацыяльныя арганізацыі. Мы мелі да пачатку вайны 7 перыядычных выданняў, 4 выдавецкія таварыствы, некалькі крэдытных таварыстваў і кааператыўных саюзаў, шэраг вясковых народных бібліятэк...

— Мы — народ беларускі — сталі сапраўднай ахвярай вайны, раскідаліся па бяскрайніх абшарах Расійскай імперыі, урад якой нават забараняе ствараць арганізацыі па дапамозе тым жыхарам, што эвакуіраваліся з нашых вёсак. Нашых дзяцей пераводзяць у сховішчы, адрываючы ад бацькоў, каб потым русіфікаваць. Зараз над намі навісла рэальная пагроза поўнага знішчэння ў якасці асобнай нацыі.

Заканчвалася пасланне наступнымі словамі: «Цяпер, дзякуючы III Канферэнцыі Нацый, мы ў першы раз за 120 гадоў маем магчымасць паведаць цывілізаванаму свету, якой поўнай бяспраўнасцю мы пакутуем у Рускай імперыі. Мы просім у цывілізаваных народаў спачування і падтрымкі дзеля таго, каб прымусіць паважаць нашы нацыянальныя і культурныя правы.

Мы можам, нарэшце, спадзявацца, што які б ні быў зыход вайны, еўрапейскія нацыі дапамогуць нам забяспечыць Беларусі ўсе яе палітычныя і культурныя правы, што яны дадуць нашаму народу магчымасць вольна развіваць свае разумовыя, маральныя і эканамічныя сілы і гэтыя правы дазволяць нам стаць гаспадарамі на сваёй уласнай зямлі».

Пройдзе час — і некаторыя нядобрасумленныя гісторыкі ахарактарызуюць тых, хто прадстаўляў Беларусь у Лазане, як «германскіх агентаў» (паўтараючы, дарэчы, хлуслівую байку царскіх паліцэйскіх) і «беларускіх буржуазных нацыяналістаў». Сапраўды, беларускія дзеячы атрымалі дазвол на паездку ў Лазану з рук германскіх улад, якія ў той час былі гаспадарамі ў краі. Але аніводным сваім дзеяннем яны не падтрымалі агрэсіўную палітыку Германіі, а думка аб незалежнасці Беларусі ўвогуле супярэчыла нямецкім намерам. Юльяна Дубейкаўская пісала ў сваіх успамінах, што Іван Луцкевіч апавядаў ёй, як бараніў на кангрэсе незалежнае становішча Літвы і Беларусі і не пахваліў немцаў. На заўвагу, што той нямецкі ўрадавец, які даў яму пропуск на праезд у Лазану, яго па галоўцы не пагладзіць, Луцкевіч адказаў: «Ну, няхай гневаецца, на міжнародным форуме нашы справы іначай ставіць нельга».

Што да «беларускага нацыяналізму», то «айцы» беларускага Адраджэння не належалі да тых, хто ўзвышае нацыянальную культуру і адначасова ганьбіць культуру іншых народаў. Нават у час вайны, актыўна выступаючы супраць царскага ўрада, дзеячы беларускага нацыянальнага руху з павагай адносіліся да рускай культуры і рускага народа. Так, напярэдадні кангрэса ў Лазане ў «Гомане» ад 9 чэрвеня 1916 г. з'явіўся артыкул з наступнымі словамі: «...Трэба дабіцца ўнутранай перастройкі Расейскай дзяржавы, трэба разарваць адвечныя путы, у якія царскі ўрад закаваў не толькі «інародцаў», але і свой маскоўскі народ. Гэту справу развязаць шмат цяжэй, і правядзенне ў жыццё той ці іншай пастановы будзе вымагаць супольнай працы з расейскім народам, каторы гэтаксама, як усе «інародцы», пакутуе пад страшэнным уціскам і жджэ вызвалення». Такім чынам, сапраўдныя беларускія патрыёты змагаліся не толькі за вызваленне Бацькаўшчыны, але і падтрымлівалі барацьбу за стварэнне вольнай дэмакратычнай Расіі.

У выніку дзейнасці беларускіх прадстаўнікоў на канферэнцыі ў Стакгольме і на Кангрэсе Нацый у Лазане ў маі і чэрвені 1916 г. народы Еўропы і ўсяго свету ўпершыню пачулі галосную заяву аб тым, што Беларусь жыве і жадае існаваць далей у якасці самастойнай дэмакратычнай дзяржавы побач з іншымі краінамі. Была падрыхтавана ідэйная аснова для практычных дзеянняў па стварэнні беларускай дзяржаўнасці, якімі сталі абвяшчэнне БНР у сакавіку 1918 г. і БССР у студзені 1919 г.

Менавіта дзейнасць беларусаў на міжнародных кангрэсах паўплывала на ўзнікненне ў 20-я гады першых арганізацый беларускіх эмігрантаў на амерыканскім кантыненце і ў іншых краінах свету, што спрыяла захаванню нацыянальнай спадчыны ў час цяжкіх выпрабаванняў Бацькаўшчыны. Удзел беларускай дэлегацыі ў Лазанскім Кангрэсе Нацый паклаў пачатак доўгаму і складанаму працэсу выхаду Беларусі на міжнародную арэну, у выніку якога рэспубліка стала членам-заснавальнікам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. І таму цяпер, калі Дэкларацыі аб суверэнітэце БССР нададзены статус канстытуцыйнага закона, калі Вярхоўны Савет рэспублікі зацвердзіў яе новую назву — Рэспубліка Беларусь, калі беларускія гістарычныя сімвалы — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг — сталі дзяржаўнымі, калі ўвогуле паскорыўся працэс адраджэння нацыянальнай свядомасці, трэба памятаць тых, хто ішоў на стакгольмскі і лазанскі з'езды народаў з мэтай данесці да ўсяго свету жаданне беларусаў «людзьмі звацца».

**Алесь ЦІХАМІРАЎ,**
**аспірант Інстытута гісторыі АН Беларусі.**

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### КРЫТЫКАВАЦЬ МОЖНА, АЛЕ...

**Сёння забароненых тэм няма, крытыкуецца ўсё і ўсімі. А вось літаратурнай крытыцы амаль не засталося месца. Нават у застойныя часы перыядычныя выданні, у тым ліку газеты, куды больш увагі ўдзялялі рэцэнзіям, творчым партрэтам. Цяпер ці не ўсе яны ганяюцца за сенсацыйнымі матэрыяламі. Трывожнае становішча і з выпускам кніг па крытыцы і літаратуразнаўстве ў рэспубліканскіх выдавецтвах. Прынамсі, у «Мастацкай літаратуры» пагаворваюць аб ліквідацыі адпаведнай рэдакцыі...**

**На такой, далёка не аптымістычнай ноце, праходзіў у аўторак справаздачна-выбарчы сход секцыі крытыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі. На ім выступілі Т. Чабан, М. Мушынскі, Н. Пашкевіч, У. Конан, Г. Каханоўскі, А. Сабалеўскі. А. Сямёнава. Прамоўцы сышліся на адным: крытыка знаходзіцца на грані вымірання, каб выжыць — неабходна аб'яднацца ўсім аднадумцам.**

**Старшынёй бюро секцыі выбраны М. Мушынскі, намеснікамі — А. Сабалеўскі і А. Сямёнава. Пытанне аб сакратары будзе разгледжана ў рабочым парадку.**

### ХРЫСЦІЯНСКАЯ МІЛАСЭРНАСЦЬ

**9 ліпеня мінулага года Управаю БНФ «Адраджэнне» была прынята адозва да хрысціян свету ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай і яе наступствамі для народа Беларусі. Гэта адозва мае водгук у сэрцах хрысціян. Інфармацыя аб зборы сродкаў на чарнобыльскую праграму БНФ паступае ў Народны фронт з Вялікабрытаніі, ЗША, Канады, іншых краін. Уладыка Сава, архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі, перадаў прадстаўніку БНФ першую суму грошай, сабраных у фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля праваслаўнымі вернікамі Беласточчыны. Гэтая сума — 10 мільёнаў злотых.**

### ДАПАМОГА АХВЯРАМ РЭПРЭСІЙ

**Беларусы Аўстраліі сабралі грошы ў фонд дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій «перабудовачнага» часу на Беларусі. Размяркоўваць сродкі даверана Беларускаму народнаму фронту. Рашэннем Управы БНФ напярэдадні 7 лістапада матэрыяльная дапамога перададзена шэрагу асоб. Сярод іх — мастакі Алесь Свістуновіч (ён быў збіты міліцыяй у часе выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет рэспублікі) і Алесь Пушкін — ён таксама быў збіты і падвергнуты зняволенню за спробу адкрыта адсвяткаваць 71 гадавіну Беларускай Народнай Рэспублікі. Раней з гэтага фонду была аказана дапамога Валерыю Сядову.**

**П. В.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, сакратару Віцебскага абласнога аддзялення СПБ Алегу Салтуку з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці МАЦІ.**

**Калектыў Белдзяржмузея народнай архітэктуры і побыту выказвае глыбокае спачуванне тэхніку Дзімітрыенку Барысу Рыгоравічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

# АДКУЛЬ УЖО НЕ ВЯРТАЮЦЦА, або ГЭТА ЖАХЛІВАЕ СЛОВА «СУІЦЫД»

**«Двое ў горадзе сёння скончылі жыццё самагубствам. У сваёй кватэры павесіўся 14-гадовы школьнік. Пракуратура праводзіць расследаванне. Днём з балкона сёмага паверха выкінулася 32-гадовая жыхарка г. Заслаўя, якая прыехала пагасцяваць да сваячкі». (Мінская гарадская газета «Добры вечар» за 10 кастрычніка 1991 г.).**

Ад прачытанага стыне ў жылах кроў. Не ведаю, як на каго, а на мяне кожны выпадак самагубства, па медыцынскай тэрміналогіі — суіцыду, пакідае больш пакутлівае ўражанне, чым забойства. Як бы кашчунна гэта ні гучала, але забойства нейкім чынам «упісваецца» ў чалавечую прыроду — колькі існуе чалавецтва, столькі людзі забівалі адзін аднаго. І не толькі на вайне. Тут усё больш-менш зразумела — здзейснена цяжкае злачынства, яно кваліфікуецца тым ці іншым артыкулам крымінальнага кодэксу, і вінаватага чакае пакаранне. Вядома, не ўсё тут проста, барацьба са злачыннасцю — адна з самых цяжкіх праблем, якія стаяць перад грамадствам, але, паўтараю, гэта падаецца ўспрыманню розумам — мы ж яшчэ ў дзяцінстве гулялі ў «сыщиков и разбойников».

Дарэчы, я ніколі не чуў, каб дзеці гулялі ў самагубцаў. Відаць, таму, што пачуццё самазахавання, прага жыцця закладзены ў чалавечых генах.

І вось жахлівая, на фоне «генетычнага» страху перад смерцю, лічба — за 8 месяцаў гэтага года ў рэспубліцы было зафіксавана 715 выпадкаў суіцыду. Паўтараю сам сабе гэты «паказчык» і імкнуся ўявіць страшэнны адчай, пякельныя душэўныя пакуты, што валодалі гэтымі людзьмі перад тым, як яны вырашылі зрабіць апошні крок...

Голас начальніка інфармацыйнага цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў палкоўніка Міхаіла Пятровіча Бондара, які даў мне нагаданую лічбу,— сухі і будзённы. Сказаў, што больш нічога па гэтым «пытанні» ён паведаміць не можа, хіба толькі назваць яшчэ колькасць самагубстваў па абласцях і горадзе Мінску, дзе, дарэчы, за гэты час зарэгістраваны 161 самагубца. Мае натуральныя пытанні да Міхаіла Пятровіча — хто гэтыя людзі, іх узрост, сацыяльны статус, прычыны самагубства — застаюцца без адказу. «Такіх звестак мы не збіраем»,— кажа М. Бондар і раіць звярнуцца ў пракуратуру рэспублікі, бо кожны выпадак самазабойства «праходзіць», па яго словах, па «графе» «гвалтоўная смерць» і павінен правярацца органамі пракуратуры.

Але і ў Пракуратуры рэспублікі мне адказалі, што самагубцамі «не займаюцца». Адно параілі «выйсці» на якую-небудзь раённую пракуратуру, дзе, магчыма, больш дэталёва ўнікаюць у такія праблемы.

Званю ў пракуратуру Першамайскага раёна сталіцы. Трубку бярэ памочнік пракурора Галіна Васільеўна Радкевіч. Дамаўляемся аб сустрэчы. Неўзабаве я знайду ў яе асобе цікавую і шчырую субяседніцу. З непадробным хваляваннем яна будзе расказваць пра выпадкі самагубстваў, якіх і ў іх раёне не меншае — летась тут пазбавілі сябе жыцця 28 чалавек. Адзначыў пра сябе, што Галіна Васільеўна імкнецца прааналізаваць кожны выпадак суіцыду, які ёй давялося расследаваць, зразумець, што прымусіла чалавека рашыцца на такі адчайны ўчынак. «Вы спрабавалі неяк сістэматызаваць прычыны самагубстваў?» — пытаюся. Мая субяседніца цяжка ўздыхае: «Зрабіць гэта, відаць, немагчыма. Усё залежыць ад псіхічнага складу, тэмпераменту людзей. Тое, што аднаму здаецца дробяззю, на якую не варта звяртаць увагі, другі прымае як трагедыю, як удар лёсу. Нават спецыялісты-псіхолагі разыходзяцца ў ацэнках такой з'явы, як суіцыд. Адны лічаць, што самагубцы — слабавольныя людзі, другія, наадварот, сцвярджаюць, што гэтыя асобы вызначаюцца моцным характарам... Відавочна толькі адно: прычына пераважнай большасці самагубстваў—невыносна цяжкія жыццёвыя калізіі, з якімі даводзіцца сёння сустракацца значнай колькасці людзей»...

Мая субяседніца адзначае, што з 28 чалавек, якія летась звялі рахункі з жыццём,— 10 пенсіянераў, што змушаны былі жыць у адзіноце, пакутуючы ад беднасці, ад адчування, што нікому ўжо не патрэбныя.

Я слухаю яе і ўспамінаю недзе прачытаную нататку, дзе прыводзіўся факт, які напачатку падаўся мне досыць кур'ёзным — у Англіі некалькі гадоў назад ва ўсіх буйных універсамах, ва ўстановах, размешчаных у вялікіх будынках, былі зняты шыльдачкі з надпісам «Тупік», якія павінны былі папярэджваць наведвальніка, што далей ходу няма. Як высветлілася, некаторых людзей, што сутыкаліся з гэтым надпісам, апаноўваў такі жах, такі невыносны адчай, што яны гатовы былі тут жа пакончыць жыццё самагубствам. Слова, адно толькі слова. Нездарма гавораць — «слова лечыць і слова калечыць». У нашым блаславёным грамадстве, на жаль, больш распаўсюджаны словы апошняга «гатунку».

Для мяне заўсёды гучаў здзекліва адзін з пастулатаў камуністычнай прапаганды: у нашым грамадстве чалавек чалавеку сябра, таварыш, брат. Здзекліва таму, што жыццё кожную хвіліну сцвярджала адваротнае. Ці не вышэй усіх у свеце сягнуўшы ў космас, мы апусціліся да самай нізкай адзнакі агульначалавечай культуры, ці больш правільна — чалавечага бескультур'я. Я маю на ўвазе нават не хамства і грубасць нашых простых савецкіх людзей у транспарце, у чэргах, дзе бліжняга гатовы абразіць самай брыдкай лаянкай. Гэта ўсё, як кажуць, ляжыць на паверхні. Я б назваў галоўнымі рысамі гэтага бескультур'я — нецярпімасць, абыякавасць, адсутнасць спагады ў адносінах між людзьмі, няўменне дараваць адзін аднаму.

Кажуць, нашы траўматалагічныя бальніцы заўсёды перапоўнены. Людзі ламаюць рукі, ногі, галовы. Да такога бедалагі адразу імчыць «хуткая дапамога». Не лечаць у нас толькі душэўнай траўмы... Помню, у бальнічнай палаце са мной ляжаў інфарктны хворы, дырэктар нейкага завода, які свой інфаркт «зарабіў» на калегіі міністэрства, куды яго выклікалі на чарговае «зняццё стружкі». Міністр, ці намеснік міністра (ужо не помню) вёў сябе яшчэ больш груба, чым заўсёды, абражаў, папракаў у неіснуючых грахах, пагражаў зняць з работы. Дырэктар тут жа, у кабінеце, страціў прытомнасць. Прыйшоў да памяці ў рэанімацыі з дыягназам цяжкага інфаркту. «Ведаеце,— гаварыў мой субяседнік,— не хачу жыць, не хачу. Як успомню тую калегію, дык такі ахоплівае адчай — хоць у пятлю...»

Галіна Васільеўна расказала мне гісторыю, сведкай якой ёй надарылася быць самой. З яе сынам са школы моцна сябравалі два хлопчыкі. Адзін з іх асабліва вызначаўся недзіцячай самастойнасцю, разважлівасцю, дысцыплінаванасцю, здольнасцямі. «У гэтай хлапечай тройцы,— гаварыла мая субяседніца,—ён заслужана лідзіраваў, і я, як маці, была вельмі задаволена. Скончыўшы школу, Ігар (назаву яго гэтым імем) паступіў на хімфак універсітэта і паспяхова здаваў сесію за сесіяй. І вось аднойчы сын усхвалявана паведамляе мне, што Ігар... павесіўся. Ад нечаканасці я не магла слова вымавіць. Як, чаму? Аказалася, канфлікт з выкладчыкам, які «зарубіў» Ігараву курсавую работу, суправадзіўшы гэтае сваё «рашэнне» яшчэ і здзеклівымі заўвагамі ў прысутнасці аднакурснікаў. І Ігар, з яго абвостраным пачуццём чалавечай годнасці, не вытрываў, зламаўся... Як гэта можна на такое рашыцца, пыталася я ў сына, з-за слоў нейкага хама?.. Адказ яго ўразіў да глыбіні сэрца, хоць і складаўся з аднаго, ведаеце, распаўсюджанага цяпер сярод моладзі слоўца — «запросто».

Перагортваю журнал рэгістрацыі фактаў суіцыду. Сярод самагубцаў нямала школьнікаў, і гэта асабліва горка і незразумела. Галіна Васільеўна ўспамінае некалькі такіх выпадкаў і ва ўсіх іх малалеткі, што не захацелі больш жыць, аказаліся загнанымі ў кут з-за няўвагі, неразумення, грубага ўтаржэння дарослых у іх такі крохкі ўнутраны свет. Андрэй М., 1978 года нараджэння. Памерла маці, якая была з яго бацькам у разводзе. Пасля матчынай смерці хлопчык аказваецца на папячэнні сваякоў. Хоча завязаць кантакты з бацькам, перайсці да яго жыць. Той адмаўляе. Фінал...

Міхаіл В., вучань дзевятага класа. Выдатнік, вельмі здольны да многіх навук хлопчык. Інтэлігентная сям'я — бацькі — інжынеры аднаго з мінскіх заводаў. Выхаваннем Мішы займаецца ў асноўным бацька, які не толькі ўважліва сочыць за яго вучобай, але яшчэ і ўводзіць яго ў свет сваіх захапленняў акультнымі навукамі. Дома ідзе пастаянная гаворка пра экстрасенсаў, ёгаў, яснавідцаў. У нейкі дзень бацька вырашае далучыць дамачадцаў да рэлігіі. На вялікдзень усе ідуць у царкву, адстойваюць там усяночную. Служба так уражвае, скаланае Мішу, што ён кідаецца на падлогу, ашалела моліцца, крычыць: «Ісус, я іду да цябе!». Бацька, які не можа не бачыць, што ў Мішы ў выніку наведвання царквы адбыўся нервовы зрыў, каб «паправіць становішча», паўтарае з ім візіт у храм. Адтуль падлетка прывозяць дахаты ў паўвар'яцкім стане. Назаўтра ён выкідваецца з акна чацвёртага паверха...

Яшчэ зусім нядаўна выпадак гэты звязалі б з тлятворным уплывам царквы. Сёй-той нават сачыніў бы на гэту тэму аповесць ці зняў кінафільм (успомнім сумнавядомыя «Хмары над Борскам»). Такі погляд на царкоўнае веравучэнне сёння выглядае анахранізмам, і гэта добра. Але, але... Мне асабіста прага царкоўных тайнаў, якая раптам прачнулася ў многіх маіх суграмадзян, здаецца часам штучнай, не выпакутаванай, простай данінай модзе. Раней насілі значкі з выявай Леніна, не верачы ні ў Леніна, ні ў д'ябла, цяпер надзяваюць на шыю ланцужок з залатым крыжыкам — як, зноў-такі, моднае ўпрыгожанне. Вось ужо чытаю, што і артысты Мінскага тэатра музычнай камедыі запрасілі папа, каб ён асвяціў сцэну. Без гэтага, разумеецца, шаноўныя артысты не змогуць з натхненнем спяваць «красотки, красотки, красотки кабаре...»

Я палічыў нетактоўным сустракацца з бацькам Мішы, каб не сыпаць яму, як кажуць, соль на раны. Але ад людзей, якія былі з ім знаёмы, ведаю, што да гэтага ў царкву ён ніколі не хадзіў, ні ў якога Бога не верыў, але, тым не менш, вырашыў менавіта такім чынам паэксперыментаваць на сыне з яго надзвычайна ўважлівай, тонкай натурай...

Ну, а школа? Якім бокам павярнулася да гэтай трагедыі школа, у якой вучыўся Міша? Я гутарыў з яе дырэктарам Алай Піліпаўнай Прылуцкай. Яна адразу ж стала хваліць свайго былога вучня — выдатнік па ўсіх прадметах, гонар школы. «І нічога ў яго паводзінах не прадказвала гэткага сумнага фіналу?» Прылуцкая адводзіць вочы: «Ведаеце, мы даўно заўважылі ў ім нейкія псіхічныя адхіленні...» «І ў чым гэта выяўлялася?» «Ну, разумееце, ён заўсёды гаварыў, што думае, мог уступіць у спрэчку з настаўнікам, даводзячы, што той няправільна выкладае матэрыял...» — адказвае Ала Піліпаўна і дадае фразу, якая мне запомнілася: «Дэмакратыя дэмакратыяй, а ў нас вучыцца трэба...»

Ці быў Міша псіхічна хворы? Не, не быў. Бытуе такое стэрэатыпнае ўяўленне аб самагубцах: маўляў, усе яны псіхічна хворыя людзі. Бо як гэта чалавек у цвярозым розуме рашыцца на самагубства? Каб больш не вяртацца да гэтай тэмы, скажу, што, па сведчанні спецыялістаў - суіцыдолагаў, сярод самагубцаў псіхічна хворых людзей не больш за 15—20 працэнтаў.

Я хачу разбурыць яшчэ адзін устойлівы стэрэатып, згодна з якім ніхто і нішто не можа перашкодзіць чалавеку звесці рахункі з жыццём. Можа! У большасці цывілізаваных краін свету эфектыўна працуе служба прафілактыкі суіцыдаў, да якой падключаны лепшыя псіхолагі, псіхіятры, псіхатэрапеўты, сацыёлагі.

Да свайго сораму, толькі цяпер, працуючы над гэтым матэрыялам, я даведаўся, што існуе цэлая навука — суіцыдалогія, якая вывучае розныя аспекты такой страшнай з'явы, як самагубства, выпрацоўвае методыкі яго папярэджання. У нас, на Беларусі, навука гэта фактычна не мае выхадаў на практыку. Навука — сама па сабе, жыццё — само па сабе.

Фактычна ў нас няма каму ўсур'ёз займацца гэтай праблемай. Міністэрства ўнутраных спраў збірае толькі звесткі аб колькасці самагубстваў, пракуратура ажыццяўляе над імі нагляд з пункту гледжання крымінальнага кодэкса — самагубства гэта ці забойства, медыкі... А што робяць у гэтым плане медыкі?

Галоўны псіхіятр Міністэрства аховы здароўя Уладзімір Дзмітрыевіч Каралёў, з якім я сустрэўся, адразу прызнаўся, што нічога пэўнага па праблеме папярэджання суіцыдаў сказаць не можа. Хіба толькі, што працуе «тэлефон даверу», які павінен аказваць псіхалагічную дапамогу патэнцыяльным суіцыдным хворым. «А да яго лёгка дазваніцца?» — пытаюся я. «Чаму ж не,— адказвае У. Каралёў,— і, падсоўваючы тэлефон, прапануе, — паспрабуйце, пазваніце». Па падказцы майго субяседніка набіраю нумар: 46-11-11. У трубцы доўгія гудкі. Спрабую званіць яшчэ

раз — з тым жа вынікам. «Некуды пайшлі»,— выказваю я здагадку. Уладзімір Дзмітрыевіч паціскае плячыма: «Зараз набяру па сваім канале». Дачакаўшыся адказу, некаму сярдзіта выгаворвае: «Тут у мяне сядзіць карэспандэнт, які паспрабаваў пазваніць па «тэлефоне даверу», і ніхто яму не адказаў, разбярыцеся і далажыце мне!» Сапраўды, праз колькі хвілін звініць званок. Каралёў хмурыць бровы, слухае, патроху твар яго спакайнее: «Гаварылі па іншым тэлефоне? Так, так, зразумела...»

Спрабую ўявіць сябе на месцы чалавека, якому ну проста жыццёва важна пазваніць па «тэлефоне даверу» менавіта ў гэтую хвіліну. Потым псіхолагі мне раскажуць, што, бывае, чалавек, які, здаецца, вырашыў ужо звесці рахункі з жыццём, вагаецца да апошняга моманту, адчуваючы пры гэтым танталавы пакуты — зрабіць — не зрабіць? У некаторых дастае сіл узяць сябе ў рукі, пазваніць... Хто — блізкім, а хто і па «тэлефоне даверу». Я спытаю ў сімпатычных маладых жанчын-псіхолагаў, якія яго «абслугоўваюць», ці многа такіх званкоў? Не, не многа, недзе адзін працэнт абанентаў гаворыць пра сваё жаданне скончыць жыццё самагубствам. «Але ж кажуць, што той, хто пагражае гэта зрабіць, ніколі на такі ўчынак не пойдзе»,— заўважаю я. «Гэта няпраўда, у некаторых людзей рашэнне звесці рахункі з жыццём высплявае паволі і яны, часам, не робяць з гэтага тайны, — тлумачыць псіхолаг Вера Сяргееўна,— вось тут важна нам перахапіць «ініцыятыву».

Даведваюся пра «тайну» маўчання «тэлефона даверу». Не, ніхто з іх нікуды не адыходзіў з паста. Усё тлумачыцца тым, што напачатку задумвалася зрабіць «тэлефон даверу» чатырохканальным, каб яго незалежна адзін ад аднаго маглі адначасова «абслугоўваць» чатыры псіхолагі. Ды неўзабаве штаты скарацілі акурат у чатыры разы, і цяпер спецыялісты, што засталіся, працуюць толькі на адным канале. Тры астатнія тэлефоны, што стаяць у іншых кабінетах, на званок абанента адгукаюцца доўгімі гудкамі.

Хай даруе мне чытач, што расказваю пра ўсё гэтак падрабязна. Гэта дзеля таго, каб паказаць, як умеюць у нас спрафанаваць, дыскрэдытаваць самую карысную справу.

Аглядаю цесны, душны пакойчык, у якім працуюць псіхолагі. Стол, пара крэслаў, невялікая старая канапка. Няма дзе расслабіцца, адпачыць (дарэчы, «тэлефон даверу» працуе кругласутачна). Такі пакойчык падышоў бы вахцёру, а не людзям такога тонкага занятку, як псіхалогія.

«Нам, як пажарнікам, трэба заўсёды трымаць сябе ў гатоўнасці нумар адзін»,— жартуе адна з жанчын. Жарт гэты не такі ўжо далёкі ад ісціны. Сапраўды, людзям, якія працуюць на «тэлефоне даверу», трэба быць заўсёды максімальна сабранымі, эмацыянальна падрыхтаванымі да самай цяжкай і складанай размовы. Не сфальшывіць, пераканаць чалавека на тым канцы провада, што ты яму верыш, спачуваеш, можаш даць добрую параду. Гэта, відаць, нялёгка, калі яшчэ ўлічыць, што такіх званкоў бывае да трыццаці за змену.

Пры мне пазваніла жанчына, якая расказала сумную гісторыю пра свайго дваццацігадовага сына, што прыахвоціўся да гульнявых аўтаматаў. Некалькі месяцаў назад гэтая злашчасная страсць каштавала яму буйной сумы пазычаных грошай, і хлопец зрабіў спробу павесіцца. На шчасце, парвалася вяроўка. Пасля гэтага ўзяўся за розум, да аўтаматаў пэўны час нават не падыходзіў. А цяпер ізноў узяўся за старое... Што рабіць, як ратаваць хлопца? Псіхолаг супакойвае жанчыну, кажа, што, па ўсім відаць, сын яе псіхічна здаровы чалавек, трэба дапамагчы яму пазбавіцца гэтага азарту, раіць звярнуцца ў кабінет сацыяльнай і псіхалагічнай дапамогі, які працуе пры 18-й паліклініцы, там ёй акажа дзейсную дапамогу вельмі вопытны псіхатэрапеўт Сяргей Андрэевіч Язерскі...

Неўзабаве пазнаёміўся з Сяргеем Андрэевічам і я. Буду доўга блукаць па калідорных лабірынтах, пакуль знайду яго кабінет. У Мінску ён адзіны і, зазначу, размешчаны не ў самым зручным месцы — у канцы мікрараёна «Серабранка», дабірацца сюды, скажам, з мікрараёна «Паўднёвы Захад», трэба некалькімі відамі транспарту, затраціўшы на дарогу больш за гадзіну. Падумае, падумае чалавек... і не паедзе.

Я пытаюся ў Сяргея Андрэевіча, што ён думае наконт прафілактыкі суіцыдаў. «Службы такой у нас няма, — рашуча гаворыць Язерскі.— А калі што і робіцца ў гэтым плане, дык на ўзроўні самадзейнасці».

Расказваю яму, што пару год назад у «Огоньке» быў надрукаваны фотарэпартаж з так званага крызіснага стацыянару пры адной з маскоўскіх бальніц, куды трапляці людзі, якіх удалося ўратаваць пасля спробы скончыць жыццё самагубствам. Прафесар, які стаяў на чале гэтага стацыянара, расказваў, як праводзяць тут псіхалагічную рэабілітацыю трапіўшых сюды людзей, як літаральна вяртаюць іх да жыцця. Патрэба ў такой медыцынскай установе вельмі вялікая, калі ўлічыць яшчэ, што, згодна са статыстыкай, большасць асоб, якія аднойчы зрабілі спробу самагубства, пры «няўдачы» спробу такую паўтараюць.

Выслухаўшы мяне, Сяргей Андрэевіч паціскае плячыма, кажа, што пра той маскоўскі стацыянар чуў, і, вядома, вельмі няблага было б, каб такія былі і ў нас, але, але... «Няма каму за такую справу ўзяцца. Патрэбны сродкі, і немалыя, хто іх дасць...» «Спробы неяк «працаваць» з уратаванымі суіцыднымі хворымі,— працягвае Язерскі,— робяцца ў некаторых нашых клінічных бальніцах, скажам, у таксікалагічным аддзяленні мінскай бальніцы хуткай дапамогі. Прамыўшы страўнік чалавеку, які прыняў атруту, і крыху падлячыўшы, перад выпіскай яму раяць звярнуцца ў наш кабінет. Хто прымае гэтую параду, а хто і не, бо многія не хочуць успамінаць пра тое, што з імі здарылася, тым больш расказваць пра гэта незнаёмаму чалавеку, хай і псіхатэрапеўту. І потым, ведаеце, праз колькі часу нам дасылаюць з бальніцы ўрачэбныя карткі суіцыдных хворых? Праз паўтара-два месяцы пасля іх выпіскі». Язерскі паказвае мне толькі што атрыманую картку, пазначаную ліпенем гэтага года. «Дык не прасцей было б аказаць суіцыдна хвораму псіхалагічную дапамогу на месцы, у бальніцы?»—пытаюся. «Прасцей,— згаджаецца Сяргей Андрэевіч,— але па штатным раскладзе такой вялізнай бальніцы дазволена мець толькі аднаго псіхатэрапеўта. Гэта на шмат соцень хворых... Ды і знайсці вопытнага спецыяліста вельмі цяжка...» Успамінаю размову з Каралёвым, які, між іншым, паскардзіўся, што ў рэспубліцы ніхто не рыхтуе ўрачоў такой спецыялізацыі. Толькі ў Маскве і Санкт-Пецярбурзе. Адсюль і востры дэфіцыт такіх урачоў. Сёння ў рэспубліцы іх налічваецца ўсяго крыху больш за дваццаць, а трэба трыста...

Будзе ў мяне (праўда, толькі тэлефонная) размова з загадчыкам аддзялення неўрозаў Мінскай дзесятай клінічнай бальніцы Дзмітрыем Іванавічам Данскім. Зноў на тую ж тэму — прафілактыка суіцыдаў. Ён таксама прызнае неабходнасць стварэння такога цэнтра, заўважыўшы, дарэчы, што гэта не толькі медыцынская праблема, у такім цэнтры павінны працаваць побач з псіхатэрапеўтамі, псіхолагамі, псіхіятрамі сацыёлагі, аналітыкі, работнікі праваахоўных органаў. «Але хто возьмецца за гэта?» — задае рытарычнае пытанне Дзмітрый Іванавіч.

Задамо яго і мы.

**Міхась ЗАМСКІ.**

**На Беларусі ўсё яшчэ жыве заганная традыцыя атаясамлівання нацыянальнай і канфесійнай прыналежнасці. І атрымліваецца, што «каталік — значыць паляк», «праваслаўны — значыць рускі». Гэты касцёльна-царкоўны шавінізм шкодзіць і справе веры Хрыстовай на Беларусі, бо вымушае свядомага беларуса насцярожана ставіцца і да каталіцтва і да праваслаўя. Між тым здаровы сэнс даводзіць іншае — вера Хрысціянская можа і павінна мець беларускае аблічча. Сведчанне гэтаму — стварэнне Беларускай Каталіцкай Грамады...**


ЭМБЛЕМА БЕЛАРУСКАЙ КАТАЛІЦКАЙ ГРАМАДЫ

# БЕЛАРУСКІ КАТАЛІЦЫЗМ

Наш пераменны час пазначаны вольным выказваннем асабіста выпакутаваных, надуманых ці запазычаных ідэяў і догмаў. У іх святле па тэле- і радыёэфіры, на старонках шматлікіх газет і часопісаў раз-пораз уздымаюцца праблемы, звязаныя з мінулым і сучасным станам каталіцызму на Беларусі.

Закранаючы ўнутрыканфесійны лад жыцця вернікаў, міжволі або свядома закранаюцца інтарэсы беларусаў і палякаў. На жаль, усё часцей і выразней высвечваюцца замутнёныя колеры ў багатай адценнямі прызме суседніх узаемаадносін нашых старажытных народаў.

Як правіла, інфармацыя праектуецца на ўсталяваны добразычліўцамі ад хрысціянства адзін «гістарычны» стэрэатып. Сутнасць яго менавіта такая. Па сваёй прыродзе каталіцызм нясе не рэлігійна-абрадную, а нацыянальна - экспансіўную накіраванасць. І адносна славянскай Беларусі безумоўна — польскую.

Але зразумела, што ва ўмовах крушэння камуністычна - каланіяльнай сістэмы мы абавязаны тварыць новую палітычную і эканамічную стабільнасць, ладзіць надзейныя партнёрскія адносіны з бліжэйшымі суседзямі. Так робяць усе цывілізаваныя і суверэнныя краіны, таму варта яшчэ раз звярнуцца да паднятай тэмы.

Сёння немагчыма аднабакова трактаваць бясспрэчны факт шырокага распаўсюджання каталіцызму ў сярэдневяковай беларускай дзяржаве — Вялікім княстве Літоўскім экспансіяй Захаду з мэтай паланізацыі, паколькі ёсць адна маленькая супярэчнасць. Ад самога свайго пачатку каталіцызм на беларускіх землях атрымаў уласна нацыянальнае аблічча. Паўсюдна ў набажэнствах ужывалася беларуская мова, прытым у дзвюх абрадавых формах: з часоў Міндоўга, ці нават раней, лацінскай, а з 1596 года— грэцкай і захоўвалася вернікамі да трагічнага фіналу Рэспублікі Двух Народаў.

Пасля захопу імперскай Расіяй яе ўсходняй часткі жыхарам Беларусі сапраўды ў прымусовай форме накідвалася «истинно русская вера», з багаслужэннем на чужой мове, і як ні парадаксальна гэта выглядае, але менавіта пад царскім скіпетрам — значыць, з боку Масквы, не Рыма і, безумоўна з далёкай гістарычнай перспектывай, праводзілася шырокамаштабная акцыя паланізацыі рэальна, а не міфічна паняволенага народа.

Для такой «дзіўной» справы царскай адміністрацыяй быў выкарыстаны забаронены папскай булай і распушчаны ў 1772 годзе ордэн езуітаў, які знайшоў прытулак у паўночнай краіне з адзінай праваслаўнай верай — дзяржаўнай спадкаемніцай Візантыйскага двухгаловага арла. Ад гэтага часу пад наглядам і з благаславенства «трэцяга Рыма» і Санкт-Пецярбурга праводзілася ў жыццё, нават з сённяшняга пункту гледжання, выдатна інспіраваная акцыя, палітычнай і рэлігійнай ахвярай якой станавілася беларускае насельніцтва, што сілай далучалася да нібыта праваслаўнай імперыі.

Пасля скасавання ордэна езуітаў у Расіі прыдворныя гісторыкі па заказу, у прапагандысцкіх мэтах, выкарысталі вынікі арганізаванай паланізацыі. Да нашых дзён яны супрацьпастаўляюцца ўсяму вялікаму і значнаму, што зрабілі для беларусаў айцы езуіты, навучаючы на роднай мове нашых продкаў у школах, калегіумах і Віленскім універсітэце, выдаючы на ёй, па скарынаўскай традыцыі, рэлігійную і іншую літаратуру.

Дарэчы, пры разглядзе гэтага пытання варта заўсёды прыгадваць дзеі мінулага, якія сведчаць пра бесперапынны збройны пратэст беларускіх патрыётаў супраць уціску вернікаў-каталікоў. Прыкладаў самаахвярнасці на крывавай ніве змагання ніколі не бракавала.

Узнятыя сродкамі масавай інфармацыі праблемы беларускага каталіцызму яшчэ падсвечваюцца сістэматычнымі паведамленнямі з гісторыі уніяцтва, структуры якіх аналагічна лацінскім, паяднаны ў агульным цэнтры. (Прымаюцца захады па адраджэнні поўнасцю зруйнаванай на Беларусі гэтай адметна нацыянальнай канфесіі.)

Тут не месца, паколькі яно сапраўды абмежавана для газетнага артыкула, падрабязна аналізаваць згаданыя выступленні і публікацыі, але ўсім, хто шчыра жадае плёну ў развіцці хрысціянства і міжканфесійнага супрацоўніцтва, належыць імкнуцца да большай разважлівасці ў вельмі-такі важнай для нашай нацыі справе. Кампетэнтнае асвятленне рэлігійных формаў зносін беларускіх вернікаў з Богам не накліча рознай непатрэбшчыны пры кансалідацыі народа, станоўча паспрыяе адбудове нашай дзяржаўнасці.

«Беларуская Каталіцкая Грамада» (БКГ), зарэгістраваная грамадская арганізацыя рэспубліканскага характару з сродкамі інфармацыі і адпаведна створанымі культурна-асветнымі структурамі, будзе, выказваючы погляды вернікаў, дзейнічаць у гэтым напрамку.

Пасля вяртання нацыянальнай незалежнасці перад усімі каталікамі паўстае важная задача канфесійнай кансалідацыі, праўда, яе супольнаму вырашэнню можа пашкодзіць агрэсіўнасць пэўнай часткі вернікаў да выкарыстання нашай дзяржаўнай мовы ў набажэнствах.

Для гэтага патрэбна агульнымі намаганнямі з боку новай фармацыі, гісторыкаў, вучоных сумежных іх галінаў разбурыць сфабрыкаваны міф пра неіснаванне беларускага каталіцызму. З такой мэтай БКГ наладжвае факсімільнае перавыданне разнастайнай рэлігійнай літаратуры на роднай мове, якая асабліва пашыралася на пачатку XX ст., друкавалася лацінкай і была вынікам вялікай працы беларускіх ксяндзоў. Сярод святароў узвышаецца постаць кс. Адама Станкевіча, стогадовы юбілей якога грамадскасць рэспублікі адсвяткуе сёлета 21 снежня. Плёнам іх дзейнасці карысталася не адно пакаленне беларусаў-каталікоў. Гэтыя прыгожыя, хоць і на таннай паперы, малітоўнічкі, спеўнікі, жыцці беларускіх святых не павінны стаць бібліяграфічнай рэдкасцю, існаваць толькі для аматараў старыны.

Спадзяёмся, што прыняўшы грамадзянства Рэспублікі Беларусь, свядомыя каталікі — палякі, літоўцы, латышы і г. д. з годнай сваім нацыям павагай аднясуцца да краіны, дзе падрастаюць іх нашчадкі. Інакш антыбеларускі сіндром савецкай абыякавасці ў вобліку манкурта і перакаці-поля пакідае магчымасць увасаблення на шматпакутнай зямлі іх бацькоў, не перастане быць зачэпкай для калатнечы і ўнутрыканфесійнай раз'яднанасці, будзе аслабляць каталіцызм.

Дынамічнае адраджэнне беларускага каталіцызму таксама не можа паспяхова існаваць без справядлівага вырашэння пытанняў сацыяльна - гарантаванага побыту яго носьбітаў. Надыходзіць час збірання горкіх камянёў крыўды, якія ляжаць на сэрцах старэйшых пакаленняў жыхароў рэспублікі і, асабліва, яе заходняй часткі.

Сябры БКГ лічаць, што гарантам стабільнага існавання, а таксама рэальным падмуркам каталіцызму і хрысціянства ўвогуле павінен стаць закон аб вяртанні вернікам усяго адабранага ці «добраахвотна» абагуленага камуністамі. У першую чаргу, трэба аддаць людзям зямлю, рухомую і нерухомую маёмасць, якая па праву спадчыны належыць ім. (Змарнаванае вяртаць з кампенсацыяй за нядбайнае выкарыстанне і знішчэнне іх часовымі ўладальнікамі). Валодаючы сваім адвечным дабром, беларускія вернікі дадуць рады ў аднаўленні зруйнаваных або пабудове новых касцёлаў і цэркваў, шпіталяў і прытулкаў для нямоглых, будуць на належным узроўні весці культуратворчую працу.

Закранутыя ў артыкуле праблемы, як і пытанне сяброўства ў БКГ усіх каталікоў, што жывуць у межах Рэспублікі Беларусь без іх нацыянальнага абмежавання, будуць вынесены на чарговы Сойм, які будзе праведзены 9 лістапада ў Гародні — адным з гістарычных цэнтраў беларускага каталіцызму.

**Фэлікс ЯНУШКЕВІЧ.**

